ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№3 (108) сакавік 2020 год
CATHOLICNEWS.BY

# Парафіяне даслалі свае фотаздымкі святару, каб ён не адпраўляў Імшу ў пустым храме



**Айцец Джузэпэ Корбары, які служыць у Брыянцы на поўначы Італіі, адправіў святую Імшу перад фотаздымкамі сваіх парафіян, бо яны не маглі прыйсці ў касцёл праз каранцін.**

Імшы з удзелам людзей адменены па ўсёй Італіі да 3 красавіка 2020 года. Святар папрасіў парафіян даслаць свае фотаздымкі, каб не цэлебраваць Эўхарыстыю ў пустым касцёле. Так шмат людзей адказалі на яго думку, што ў святара скончылася чарніла ў друкарцы.

Фотаздымкі дзяцей былі змешчаны на першых лаўках, дарослых – крыху далей, міністрантаў – ля алтара, а арганіста – за музычным інструментам.



# Папа ў малітве пешкі прайшоў па пустынным Рыме




Стар. 2



Стар. 8

## Гутарка пра Філіпіны і езуіцкую фармацыю

## Первый вице-президент Азербайджана удостоена папского рыцарского ордена



Стар. 4

## Пасхальны Трыдуум

*Праверце свае веды ў тэсце*
*на старонцы 7*



Больш матэрыялаў чытайце на сайце **Catholicnews.by**

## Ігнацыянская духоўнасць



Стар. 11



# Папа ў малітве пешкі прайшоў па пустынным Рыме

**Папа Францішак пешкі прайшоў у малітве пустыннымі вуліцамі Рыма, які звычайна перапоўнены людзьмі і машынамі.**

Папа ў суправаджэнні некалькіх ахоўнікаў маліўся ў дзвюх святынях горада Святога Пятра.

Італія стала еўрапейскім агмянём эпідэміі каранавіруса, ад якога ў свеце памерла ўжо 6600 чалавек.

Папа памаліўся перад цудатворным укрыжаваннем, якое, як сцвярджае паданне, у 1522 годзе ўратавала Рым ад эпідэміі чумы.

*NN.by*

*Фота радыё Ватыкана*



# Дзесяць парадаў хрысціянам на час выпрабаванняў каранавірусам

**Грэка-каталіцкі святар Юстын Бойка з Украіны прапануе парады хрысціянам падчас эпідэміі каранавірусу:**

1 Памятайце, што ваша жыццё і ваша смерць знаходзяцца ў руках Бога, таму не адчайвайцеся і не паддавайцеся роспачы.

2 Няхай шчырая малітва будзе бачным знакам прысутнасці Бога.

3 Памятайце пра свайго суседа, якому патрэбная ваша дапамога.

4 Слухайце парады касцельнай улады, бо гэта Хрыстос даручыў ёй весці душы людзей.

5 Слухайце і маліцеся за медыцынскіх работнікаў.

6 Не распаўсюджвайце плёткі і не панікуйце.

7 Звярніце ўвагу на пажылых і адзінокіх людзей і дапамажыце ім.

8 Размаўляйце са сваімі дзецьмі і прысвячайце ім больш часу.

9 У выпадку з'яўлення сімптомаў хваробы выклікайце лекара і выконвайце яго рэкамендацыі.

10 Памятайце: вірус пройдзе – і жыццё будзе працягвацца!



*Паводле CREDO*

# У Люрдзе – абмежаванне для пілігрымаў праз пагрозу каранавірусу

**Марыйны санктуарый у Люрдзе зачыніў усе басейны, у якія пагружаліся хворыя з надзеяй на аздараўленне. Вада ў басейнах паходзіць з крыніцы, якая вылілася падчас аб'яўленняў Маці Божай святой Бернадэце Субіру ў 1858 годзе.**

Такое рашэнне было прынята "на ўсякі выпадак" пасля забароны на масавыя мерапрыемствы звыш 5000 чалавек, выдадзенай Міністэрствам аховы здароўя Францыі. Гэта адна з мер прадухілення распаўсюджвання каранавірусу.

Аднак пілігрымы, як асобна, так і ў групе, усё ж могуць прыехаць у Люрд. Спецыяльная медыцынская група будзе клапаціцца пра іх, правяраючы, ці няма якіх-небудзь сімптомаў каранавірусу.

Перыяд шматлікіх паломніцтваў у Люрдзе пачынаецца ў Пальмовую нядзелю, якая сёлета прыпадае на 5 красавіка.

Люрд, які прымае каля шасці мільёнаў паломнікаў штогод, з'яўляецца самым вялікім каталіцкім санктуарыем у Еўропе і трэцім у свеце – пасля Гвадэлупы ў Мексіцы (20 мільёнаў у год) і Апарэсідзе ў Бразіліі (13 мільёнаў у 2017 годзе).

*Пераклад* ***Вікторыі Колзун***

*Паводле deon.pl*



# Ружанцовую інтэрнэт-эстафету супраць каранавірусу ініцыявалі ў Італіі

**CORONA (ANTI) VIRUS – ружанцовая інтэрнэт-эстафета, ініцыяваная ў Італіі. Праз адсутнасць магчымасці ўдзельнічаць у Эўхарыстыі вернікі мабілізуюцца на бесперапынную малітву.**

"Мы падумалі пра ўмацаванне нашай касцельнай супольнасці і ўсёй Італіі ў абдымках малітвы, якая будзе трываць і днём, і ноччу без перапынку: карона, якая не перарываецца дзеля таго, каб выстаяць у распаўсюджванні каранавірусу, а таксама гэта магчымасць атрымаць значна больш для жыцця вечнага", – пішуць ананімныя стваральнікі ініцыятывы, якая набірае папулярнасць сярод інтэрнэт-карыстальнікаў.

Прынцып просты: на адпаведным сайце неабходна запісаць імя і горад, а таксама паўгадзіны для "малітоўнага чування" ў спецыяльна падрыхтаваным графіку. Так узнікае бесперапынная эстафета ружанцовай малітвы, якая распаўсюджваецца па ўсёй Італіі, а неўзабаве, можа, і па-за яе межамі. Малітва адбываецца ў інтэнцыі ўсіх людзей, якіх так ці інакш закранула эпідэмія каранавірусу ці яе наступствы і звязаныя з гэтым змены штодзённага функцыянавання.

"Няхай мы здолеем пахрысціянску перажыць гэтыя цяжкасці, з поглядам, накіраваным у неба як магчымасць для навяртання, для погляду на жыццё вакол нас як на незаслужаны дар Айца, Які ўсё робіць добрым і нястомна кліча нас да сябе", – пішуць ініцыятары.

Да гэтай малітвы можна далучыцца праз сайт www.recode.digital/corona-anti-virus.

*CREDO*



CORONA (ANTI) VIRUS

# Распараджэнне Старшыні Канферэнцыіі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі

**Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, дарагія вернікі!**

Складаная эпідэміялагічная сітуацыя, якая склалася ў свеце ў сувязі з пандэміяй каранавірусу, заклікае нас да адказнага стаўлення да гэтай праблемы.

Як вернікі мы перадусім павінны звяртацца да Бога, без якога нічога не зможам зрабіць (пар. Ян 15, 5) і вера ў Якога аздараўляе (пар. Лк 17, 19). Таму заклікаю ўсіх да малітвы ў інтэнцыі прадухілення пандэміі каранавірусу. Выкарыстаем дадзены нам Божым Провідам час, асабліва Вялікі пост, каб праз малітву, устрыманне, дабрачыннасць, споведзь, удзел у Эўхарыстыі, набажэнствах Крыжовага шляху і Песняў жальбы, Ружанец, Вяночак да Божай Міласэрнасці, прапанаваную Папам Францішкам малітву "24 гадзіны для Пана", якая пройдзе 29–30 сакавіка, літаніі, Суплікацыю і іншыя пабожныя практыкі Міласэрны Бог захаваў нас ад гэтай бяды.

Акрамя таго, пасля кансультацыі з біскупамі каталіцкіх дыяцэзій у Беларусі, **загадваю наступнае**.

Беручы пад увагу няспыннае распаўсюджванне небяспечнай хваробы, з вераю ў Божы Провід і з клопатам пра здароўе ўсіх нашых грамадзянаў у Каталіцкім Касцёле ў Беларусі, які клапоціцца пра духоўнае і фізічнае дабро сваіх вернікаў і ўсяго народа, уводзяцца наступныя прафілактычныя санітарныя захады:

1 Ушанаванне святога Крыжа, абразоў і рэліквій адбываецца праз укленчванне ці глыбокі паклон без дотыку і цалавання.

2 Не напаўняць крапільніцы ў касцёлах асвячонай вадой і растлумачыць вернікам неабходнасць на пэўны час устрымацца ад іх выкарыстання. Рэкамендуецца мець дома асвячоную ваду і карыстацца ёю.

3 На ваконцах (кратах) канфесіяналаў павінен быць усталяваны абаронны матэрыял, які неабходна рэгулярна дэзінфікаваць і змяняць з захаваннем мераў перасцярогі.

4 Знак супакою перадаецца схіленнем галавы, без тактыльнага кантакту.

5 Перад цэлебрацыяй Эўхарыстыі духоўныя асобы і міністранты павінны старанна вымыць рукі і падчас яе няўхільна захоўваць нормы гігіены.

**Гэтае Распараджэнне дзейнічае да яго адмены.**

Усемагутны Божа, праз заступніцтва апякункі Беларусі Маці Божай Будслаўскай і апекуна ад заразных хваробаў святога Роха збаў нас ад эпідэміі каранавірусу, адары здароўем хворых і падтрымай сваёй дапамогай супрацоўнікаў службы аховы здароўя, якія імі апякуюцца.

***З бласлаўленнем,***
***Арцыбіскуп***
***Тадэвуш Кандрусевіч –***
***Мітрапаліт***
***Мінска-Магілёўскі,***
***Старшыня Канферэнцыі***
***Каталіцкіх Біскупаў***
***у Беларусі***

**Мінск, 13 сакавіка 2020 г.**
**7-я гадавіна абрання**
**Папы Францішка**



# Арцыбіскуп Кандрусевіч: "Касцёл не прапануе дзяржаве кагосьці пераследаваць ці караць"

**9 сакавіка ў Мінску з удзелам прадстаўнікоў Каталіцкага Касцёла і Праваслаўнай Царквы прайшла прэс-канферэнцыя па выніках збору подпісаў у абарону традыцыйных сямейных каштоўнасцяў і супраць прапаганды непаўналетнім гомасексуалізму і іншых палавых ненармальнасцяў.**

У прэс-канферэнцыі ўзяў удзел Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які агучыў пазіцыю Касцёла па закранутых пытаннях. Паколькі ў некаторых СМІ пасля прэс-канферэнцыі з'явіліся матэрыялы, якія скажаюць сутнасць выказванняў арцыбіскупа, партал Catholic.by звярнуўся да кіраўніка беларускага каталіцкага епіскапату з просьбай удакладніць пазіцыю Касцёла, каб выключыць магчымасць няправільнага яе разумення. Ніжэй публікуем паведамленне арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча.

"На жаль, мы ўжо не першы раз сутыкаемся з тым, што публікацыі ў некаторых СМІ ў скажоным выглядзе перадаюць сэнс выказванняў прадстаўнікоў Касцёла па важных маральных і сацыяльных пытаннях. На прэс-канферэнцыі па выніках збору подпісаў у абарону традыцыйных сямейных каштоўнасцяў і супраць прапаганды непаўналетнім гомасексуалізму і іншых палавых ненармальнасцяў я дастаткова празрыста і зразумела акрэсліў вучэнне Касцёла па згаданых пытаннях. Найбольш поўна мае выказванні былі апублікаваныя на партале Catholic.by, у рэдакцыі якога ёсць поўны запіс прэс-канферэнцыі.

Складваецца такое ўражанне, што некаторыя ўдзельнікі прэс-канферэнцыі ўжо загадзя вызначыліся з тым, што яны збіраюцца напісаць, і не пачулі таго, што на ёй прагучала. Я магу толькі выказаць сваё шкадаванне з гэтай нагоды і яшчэ раз запрасіць усіх да шчырага і непрадузятага дыялогу.

Нагадаю, што збор подпісаў пад зваротам да прэзідэнта быў ініцыяваны дабрачынным фондам "Адкрытыя сэрцы", які не з'яўляецца структурай Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. У падрыхтаваным актывістамі фонда звароце да прэзідэнта тыя, хто яго падпісалі, просяць кіраўніка дзяржавы прыняць нацыянальную надведамасную праграму ў абарону традыцыйнай сям'і і выступіць з заканадаўчай ініцыятывай пра забарону прапаганды сярод непаўналетніх аднаполых зносін.

І мы гэта падтрымліваем, паколькі Касцёл у сваім вучэнні і пастырскім служэнні атуляе асаблівым клопатам сям'ю і дзяцей, імкнучыся чытаць знакі часу і адказваць на выклікі сучаснага свету, у якім назіраецца нябачаны дагэтуль крызіс сям'і і сямейных каштоўнасцяў. На гэта неаднаразова звяртаў увагу Папа Францішак, а таксама Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.

У той самы час Касцёл не выступае з ініцыятывай кагосьці пераследаваць або дыскрымінаваць, а таксама не прапануе "ўвесці крымінальную адказнасць" за тыя ці іншыя дзеянні, як гэта некаторыя імкнуцца прадставіць. Нічога падобнага ні я, ні іншыя афіцыйныя прадстаўнікі Касцёла не выказвалі.

Мэта Касцёла ў тым, каб абвяшчаць Евангелле збаўлення ўсім людзям, нашым братам і сёстрам, заклікаючы іх да навяртання і жыцця паводле запаведзяў любові да Бога і да бліжняга. Усведамляючы слабасць пашкоджанай грахом чалавечай натуры, мы, сціплыя слугі Езуса Хрыста, адкрытыя для кожнага, хто шчырым сэрцам шукае Бога і Яго Валадарства праўды і святла. Паслухмяныя наказам Хрыста, мы жадаем дапамагчы тым, хто памыляецца, знайсці праўду, а не асуджаць і пераследаваць.

Езус кажа: "Валадарства Маё не з гэтага свету" (Ян 18, 36). Таму Касцёл як пэўны пачатак Божага Валадарства на зямлі на ўзор свайго Пана і Настаўніка не бярэ на сябе прэрагатывы зямных уладаў абвінавачваць і караць. Аднак гэта не адмяняе маральнай адказнасці чалавека за яго свядомы і добраахвотны выбар, які ён робіць, становячыся або на бок дабра, або на бок зла.

Місія Касцёла і яго слугаў – абвяшчаць праўду, асцерагаць ад маральнага зла і абараняць ад яго найбольш безабаронных, асабліва дзяцей і падлеткаў.

Спадзяюся на тое, што, кіруючыся добрым намерам, мы супольнымі намаганнямі прыйдзем да пазнання Праўды, якая вызваліць нас ад перадузятасці, недаверу і страху, і дапаможа будаваць лепшую, Божую будучыню для наступных пакаленняў на нашай роднай беларускай зямлі".

*Catholic.by*



# Суд Пакистана вынес смертный приговор христианской супружеской паре за богохульство



**Суд Пакистана вынес смертный приговор христианской супружеской паре за богохульство.**

В апреле предстоит слушание в апелляционном суде, в котором, по мнению адвоката, сохраняются шансы на оправдание, сообщает fides.

Шафкат Эммануэль (Shafqat Emmanuel) и Шагуфта Каусар (Shagufta Kausar) – любящая христианская супружеская пара из города Гжра (в провинции Пенджаб), воспитывающая четырёх детей, была приговорена к смертной казни за богохульство в 2014 году. Решение вынесено судом первой инстанции. В эти дни проходят слушания в апелляционном суде, и его приговор ожидается 8 апреля этого года. Приговор будет зачитан в верховном суде Лахора, и он поставит точку в деле по обвинению супружеской пары в отправке телефонных текстовых сообщений кощунственного содержания. Эти сведения сообщил изданию Agenzia Fides католический адвокат Халил Тахир Сандху (Khalil Tahir Sandhu), который взял на себя защиту несчастных супругов. Адвокат говорит, что "совершенно уверен" в положительном исходе слушаний в апелляционном суде и в оправдательном приговоре, поскольку "в деле полностью отсутствуют неопровержимые доказательств вины супружеской пары, а потому это обвинение явно строится на выдумках и домыслах".

Следствием и судом установлено, что инкриминируемые обвиняемым текстовые сообщения были написаны на английском языке, хотя оба обвиняемых бедны и совершенно безграмотны, а потому совершенно не способны написать что-либо ни на родном языке урду, ни тем более на английском. "Первый приговор по итогам рассмотрения дела в сессионном суде (первой инстанции) был вынесен под явным и жестким давлением исламистов", подчеркивает адвокат. Апелляция на приговор, поданная в апелляционный суд Лахора, рассматривается через целых шесть лет после вынесения приговора суда первой инстанции. Эта задержка в отправлении правосудия, которая, как утверждают многие правозащитники, обычна в делах по обвинениям христиан в богохульстве, "сама по себе является суровым наказанием для них, усиливающим и без того тяжкие страдания двух невинных людей", – подчеркивает адвокат Сандху. За свою карьеру адвокат выступал защитником в более чем 40 судебных процессах по делам христиан, "ошибочно" или ложно обвиненных в богохульстве.

В настоящее время в Пакистане по обвинениям в богохульстве томятся в тюрьмах и следственных изоляторах 25 христиан, шестеро из которых приговорены к смертной казни. Все жертвы, по словам адвоката, "находятся в большей безопасности в тюрьме, а не на свободе, где они легко могут стать жертвами мести фанатичных исламских радикалов, мечтающих растерзать каждого, кого они клеймят как богохульника без всякого суда и следствия. Но именно суды устанавливают истину, ответственность и наказание", – напоминает адвокат.

Шагуфта Каусар хорошо знакома с Асией Биби (Asia Bibi), пакистанской христианкой, приговоренной к смертной казни по ложному обвинению в богохульстве, но оправданной в 2018 году, однако вынужденной бежать из страны под угрозой расправы. На последнем этапе заключения Асия была соседкой Шагуфты по камере. Шагуфта и ее супруг теперь возлагают надежды на правосудие и поддержку общественного мнения внутри страны и за рубежом, а также на личную моральную поддержку Асии Биби, которая сейчас свободна и пребывает во Франции.

*sedmitza.ru*

# Первый вице-президент Азербайджана удостоена папского рыцарского ордена

**Первый вице-президент Азербайджана Мехрибан Алиева произведена в дамы Большого креста ордена Пия IX, одного из высших папских рыцарских орденов.**

■ **Вера Щербакова**, *ТАСС*

Награждение состоялось после аудиенции у Папы Римского Франциска.

"По завершении встреч в Госсекретариате Ватикана госсекретарь кардинал Пьетро Паролин вручил супруге президента Азербайджана Большой крест ордена Пия IX. Наградой была отмечена её деятельность и вклад в продвижение культуры, в том числе при взаимодействии с институтами Святого престола", – сообщили ТАСС.



Мехрибан Алиева среди прочего возглавляет Фонд Гейдара Алиева, который активно занимается гуманитарной и культурной деятельностью. В частности, при участии фонда проводились восстановительные работы в римских катакомбах, захоронениях христиан первых веков.

Орден Пия IX был учреждён в 1847 году. Он присуждается за выдающиеся заслуги перед церковью и обществом. Большой крест – особая степень, которой отмечаются главы государств и высокопоставленные государственные деятели.

Среди кавалеров ордена – нынешний Президент Итальянской Республики Серджо Маттарелла, целый ряд бывших глав итальянского государства, включая почётного президента Джорджо Наполитано, а также ряд коронованных особ: король Швеции Карл XVI Густав, Великий герцог Люксембурга Анри, короли Испании и Бельгии Хуан Карлос и Альберт II.






# Во Франции продолжается дискуссия по поводу проекта восстановления собора Нотр-Дам

**Во Франции продолжается дискуссия относительно того, как следует восстанавливать собор Нотр-Дам, сгоревший почти год назад.**

Главный архитектор собора Парижской Богоматери Филипп Вилнёв отстаивает проект восстановления храма в его прежнем виде, тогда как правительство Макрона выбирает более современный вариант воссоздания облика собора.

Окончательное решение должно быть принято к Пасхальным праздникам, сообщают французские СМИ.

По словам главного архитектора Парижского собора, который ещё до пожара отвечал за обновление облика храма, до сих пор продолжаются подготовительные работы, устраняются поврежденные элементы и леса. После этого процесс восстановления собора перейдет в следующую фазу.

"Придётся быть посредником между теми, кто хочет сохранить аутентичный вид этого бесценного сооружения, и теми, кто намерен модернизировать его. Сгоревший шпиль также является спорным элементом", – сказал Филипп Вилнёв.

Архитектор указывает, что даже если французский парламент высказался за восстановление собора в его прежнем виде, существует сильное давление со стороны президента Макрона, который хотел бы вписать "новый Нотр-Дам" в современную линию Парижа, взаимодействуя с Центром Помпиду или пирамидой у входа в Лувр.

Сам архитектор отстаивает восстановление прежнего облика собора, не вводя при этом никаких модернизаций, кроме использования современных материалов.

Поскольку президент Франции объявил, что реконструкцию храма должны закончить к парижской Олимпиаде 2024 года, решение о его облике примут в ближайшие месяцы.

*Седмица.Ru*



# Парады айца Піа на Вялікі пост

**“Вялікі пост – гэта час для навяртання”, – усе ведаюць гэтую прымаўку. Вось дзясятак парад ад св. айца Піа, як рэалізаваць гэтую формулу на практыцы.**

### 1. Паклапаціся пра цярплівасць

“Ідзі па шляху Госпада з прастатой і не стамляй свой дух. Табе трэба ненавідзець свае недахопы, але рабі гэта з умеранай нянавісцю, не злуйся і нервуйся… Праз недахоп цярплівасці, дарагія мае, вашы недасканаласці замест таго, каб памяншацца, растуць усё больш і больш, бо трывожнасць і клопат пра тое, як пазбавіцца ад іх, павялічваецца”.

“Захоўвай напісанае ў душы, што кажа Боскі Настаўнік: у нашым цярпенні мы знойдзем сваю душу”.

### 2. Не засяроджвайся на сваім граху

“Не мучайся тым, што ствярае неспакой, трывогу, пачуцці. Трэба толькі адно: узняць дух і палюбіць Госпада Бога”.

### 3. Падумай пра іншых. Беражы ўсмешку на іх тварах

“Няхай тваё з’яўленне, дзе б ты ні быў, заўсёды будзе такім тактоўным і далікатным, як калі б гэта была ўсмешка Бога”.

### 4. Засяродзься на тым, што ты думаеш пра свае мэты і памкненні

“Твае намаганні і твая ўвага заўсёды павінны быць скіраваны так, каб мелі правільны намер. Ён павінен быць у працы і ў барацьбе, заўсёды мужны і шчодры, з хітрасцю злога духа”.

### 5. Памятай, што Езус заўсёды з табой

“Не трэба палохацца шматлікіх падводных камянёў гэтага пекла. Езус, Які заўсёды з табой, будзе змагацца разам з табой. Ён ніколі не дазволіць душы ўпасці і пацярпець паразу”.

“Ніколі не спадзявайся на сябе. Давярай толькі Богу”.

### 6. Не забывай пра Божую міласэрнасць

“Справядлівасць Божая здзіўляе. Але не будзем забываць, што Яго міласэрнасць таксама бясконцая”.

### 7. Не губляй надзеі, калі табе цяжка

“Не варта прымаць выратаванне, не перасякаючы бурлівае мора, якое ўвесь час пагражае тапельцам. Гара святых – гэта Галгофа. Затым яны пераходзяць на іншую гару – пад назвай Табор”.

### 8. Маліся, Пан Бог заўсёды слухае цябе

“Маліся і спадзявайся! Не хвалюйся! Трывога не прыносіць карысці. Бог міласэрны, Ён выслухае тваю малітву”.

### 9. Малітва з’яўляецца лепшым спосабам суцяшэння

“Найлепшае суцяшэнне духу – гэта ўмацаванне, якое адбываецца ад малітвы”.

### 10. Паглядзі на ўсё з любоўю

“Ганарыся спакусамі і прымай смутак з любоўю. Няхай дзьме вецер, і не думай, што шоргат лісця – гэта грукат зброі”.

*Пераклад* ***Марыны Сінкевіч,*** *паводле deon.pl*

# Бог злавіў чарговую “рыбу” – мяне…

## Сведчанне вызвалення ад залежнасцяў

**Пахвалёны Езус Хрыстус! Хачу распавесці вам пра маё навяртанне і як я дзякуючы працы айцоўмарыянаў падтрымліваю ў сабе агонь веры.**

■ **Алег Дарагуш**, *г. Мінск; паводле viartannie.org*



Ранейшае маё жыццё было адной вялікай залежнасцю: ад гарэлкі, ад цыгарэт і ад многіх іншых рэчаў, якія нішчылі мяне і псавалі нервы маім родным. Найперш пакутавала сям’я: бацькі, жонка, дзеці. Я разумеў, што далей так немагчыма жыць, але ўсе мае намаганні неяк выскрабсціся былі дарэмнымі. І вось аднойчы, калі я быў зусім на дне, калі, мабыць, ніхто ўжо не верыў, што з мяне можа быць нешта добрае, мая жонка звярнулася да мяне з прапановай – памаліцца Вяночак да Божай Міласэрнасці. Яна сказала: “Хто хоць раз памоліцца, той будзе збаўлены”. Я паразважаў, што нічога не страчу, то чаму б і не паспрабаваць? І як тапелец хапаецца за саломінку, так і я ухапіўся за Божую Міласэрнасць.

Ішлі гады, і я пачаў хадзіць у касцёл. Кожнае казанне як быццам было для мяне аднаго. Яно адказвала на ўсе мае пытанні, якія ўзнікалі ў мяне ў той час: нібы сам Бог, Які ведае мае праблемы, размаўляў са мной. Але ж была і вялікая спакуса вярнуцца да ранейшага жыцця, асабліва, калі раптоўна загінуў наш маленькі сынок. Тады здавалася, што жыццё скончылася…

Скажыце, як без Божай падтрымкі было ўсё гэта перажыць? Але дзякуючы цярплівасці маёй каханай жонкі і бясконцаму даверу Богу, дзякуючы яе малітвам маё жыццё пачало паступова змяняцца. Дзякуй ёй вялікі, што вытрывала, што не адкінула мяне.

Потым у Беларусі з’явіліся рэкалекцыі “Школа хрысціянскага жыцця і евангелізацыі”, якія праводзілі айцы-марыяне. На іх паехала мая жонка. Спачатку я не разумеў яе, пярэчыў, пытаўся: “Чаго ты едзеш туды? Ці табе мала касцёла? Дома ўсё молішся, яшчэ ехаць некуды хочаш”. Яна клікала і мяне з сабой, але ў мяне было яшчэ адно захапленне – рыбалка. Думаў, яе то я ўжо не прамяняю на Бога, хопіць, што хаджу ў нядзелю ў касцёл. Але Ліля не хацела мірыцца з такім становішчам, і ўсё ж выцягнула мяне на тыя рэкалекцыі.

Тут Бог і злавіў чарговую “рыбу” – мяне. Гэтыя рэкалекцыі навучылі працаваць над сабой, мяняцца да лешага, я адчуў сапраўдную смагу па Богу. Вельмі ўдзячны айцу-марыяніну Міхаілу Цвячкоўскаму. Дзякую яму за супрацоўніцтва з хрысціянскім гуртом “Кана” з Украіны, які сумесна з а. Міхаілам арганізавалі штогадовыя музычныя варштаты, куды мы з жонкай аднойчы патрапілі. Мы былі самымі старэйшымі, там прысутнічала адна моладзь, а нам з Ліляй было па 38 гадоў. Прызнацца, гэта нас вельмі бянтэжыла. Да таго ж па талентах мы былі амаль што найгоршымі. Але, нягледзячы на такія акалічнасці, Бог выкарыстаў нас, найгоршых. Праз год мы прыехалі на такую ж музычную сустрэчу ўжо са сваімі песнямі, чым вельмі ўсіх здзівілі. Бог нас так блаславіў, што мая жонка, не маючы музычнай адукацыі, пачала пісаць песні (музыку і словы) – на хвалу і праслаўленне Пана. Я таксама, не браўшы ў рукі гітару больш за шаснаццаць гадоў, пачаў узмоцнена займацца: успамінаць тое, што забыта, і вучыцца новаму. Зараз я амаль што кожны дзень удзяляю шмат часу ігры на гітары, бо адчуваю вялікае жаданне славіць Бога. Цяпер у нас дома (і не толькі дома) вельмі часта гучаць песні праслаўлення пад акампанемент гітары альбо фартэпіяна (старэйшая дачка мае музычную адукацыю), бо нам хочацца гэта рабіць, хочацца дзякаваць Богу, заступніцы і апякунцы Панне Марыі за ўсе шчодрыя дары для нашай вялікай сям’і.

Дзякуем таксама і нашым айцам-марыянам, якія працуюць у мікраараёне Сухарава, дзе мы і пражываем, за тое, што з іх рук мы прымаем Святую Камунію, за тое, што праводзяць катэхезы з нашымі дзецьмі. Дзякую за змястоўныя казанні, за карысныя парады. Дзякуй, дарагія нашы святары, што ахвяравалі сваё жыццё на служэнне Богу і нам, простым людзям!



# Пяць урокаў Папы Францішка. Учынкі, якія вучаць лепш, чым словы



Папа Францішак вітаецца з хлопчыкам падчас сустрэчы з хворымі на агульнай аўдыенцыі ў зале Паўла VI у Ватыкане 20 лютага 2019 г. (CNS photo/Paul Haring)

13 сакавіка адзначаецца сёмая гадавіна абрання Папы Францішка на пасад святога Пятра.

**Маркус Мэшэр**, *дацэнт кафедры хрысціянскай этыкі Універсітэта Ксаверы ў Цынцынаці, штат Агаё*

За апошнія сем гадоў Папа Францішак увёў нямала памятных выразаў, якія натхняюць Касцёл. Яго заклік да "рэвалюцыі пяшчоты" нагадвае нам, што Бог міласэрны і прагне, каб Ягоны народ таксама быў міласэрны (Evangelii gaudium, 88). Францішак заахвочвае ўсіх людзей добрай волі ствараць "культуру сустрэчы" (EG, 220), якая супрацьстаіць сучаснай "культуры адчужэння" (Laudato si', 22), а таксама ўмацоўваць чалавечую годнасць і спрыяць агульнаму дабру ў свеце.

Але поруч з усімі змястоўнымі выказваннямі папства Францішка характарызуецца моцнымі жэстамі і ўчынкамі, якія адлюстроўваюць педагогіку міласэрнасці. Разважаючы над навучаннем Езуса і Яго адданым служэнні, Францішак дае настаўленні праз шэраг вельмі сімвалічных душпастырскіх дзеянняў. Вось пяць прыкладаў для разважання, распазнавання і пераймання.

## Пакора

Папа Францішак выбраў імя, якое сведчыць пра прыхільнасць да пакоры і прастаты, а таксама пра яго асаблівы клопат пра бедных і пра ўсю планету. Пасля абрання Хорхе Марыя Берголіа вырашыў узяць імя "Францішак", блізка прыняўшы да сэрца напамін свайго сябра, бразільскага кардынала Клаўдыё Хамеса: "Не забудзься пра бедных". Падчас свайго першага звароту на плошчы Святога Пятра Францішак парушыў традыцыю, папрасіўшы 150 000 чалавек, якія былі там, памаліцца за яго, перш чым удзяліць сваё першае блаславенне ў якасці Папы.

Калі ён быў прадстаўлены братам кардыналам, Францішак адмовіўся выкарыстоўваць узвышэнне, каб заставацца нароўні з імі. Францішак выбраў пражыванне ў невялікім пакоі, каб заставацца нароўні з імі. Францішак выбраў пражыванне ў невялікім памяшканні ў доме для гасцей, а не ў апостальскім палацы. Ён аб'язджае Ватыкан на аўтамабілі Ford Focus і часта выкарыстоўвае Fiat для сваіх міжнародных тураў замест экстравагантнага лімузіна альбо красовера.

У свой першы Вялікі чацвер у якасці Папы Францішак памыў ногі 12 злачынцам, у тым ліку дзвюм жанчынам і мусульманіну. Гэты сціплы жэст – магчыма, больш чым любая гамілія ці пастырскі ліст напоўніў жыццём урывак з Евангелля паводля Яна (Ян, 13). Сваімі лагоднымі ўчынкамі Францішак паказвае нам, што значыць выконваць запаведзь Езуса: "Як Я палюбіў вас, так і вы любіце адно аднаго" (Ян 13, 34).

## Інклюзія

Францішак стараецца ўключаць і заахвочваць, а не выключаць і асуджаць. Кожны тыдзень у сваім раскладзе ён прызначае час для сустрэч з біскупамі, якія публічна крытыкуюць яго: не дзеля таго, каб дакараць іх, а каб весці дыялог. Францішак працягвае сустракацца з ахвярамі сексуальнага гвалту з боку духоўных асоб, што з'яўляецца часткай яго асабістай прыхільнасці да пакаяння і выпраўлення ганебных выпадкаў, калі Касцёл не здолеў абараніць дзяцей і ўразлівых дарослых.

Папа выказаў намер уключыць больш жанчын у прынцыце рашэнняў, вынікам чаго стала прызначэнне Франчэскі Дзі Джавані на кіраўнічую пасаду ў Дзяржсакратарыяце ў пачатку гэтага года. Францішак нястомна дае прыклад інклюзіі, чула абдымаючы людзей, знявечаных хваробай, людзей з асаблівымі патрэбамі і маленькіх дзяцей. Яго дні нараджэння праходзяць з пацыентамі ў бальніцах і з бяздомнымі.

Сучаснікі Езуса часам злавалі пра тое, што Ён еў з грэшнікамі і ізгоямі. Калі Езус сказаў, што ідзе да Закхея, натоўп незадаволена бурчаў (Лк 19, 2-10). Як Езус звяртаўся нават да тых, хто лічыўся нікчэмным і няварты, так і Францішак пашырае Божую ласкавасць на ўсіх людзей.

## Слуханне

Трывалая спадчына Папы Францішка можа паўстаць таксама з шэрагу сінодаў, што стварылі ўмовы для "Касцёла, які больш слухае" ("Christus Vivit", 41). Як сведчыць скліканне сінадальных сходаў, каторыя абмяркоўвалі сужэнства і сям'ю (2015 і 2016), маладых людзей і пакліканне (2018) і Панамазонскі рэгіён (2019), Францішак дэманструе, што інклюзія (уключанасць, удзел) – гэта не проста слова, а шлях да "адраджэння надзеі"("Querida Amazonía", 38), які вядзе да адважнага дзеяння дзякуючы дыялогу, распазнаванню і супрацоўніцтву. "Сінод" азначае "падарожжа разам", абавязацельства суправаджаць, кансультаваць і ўмацоўваць адно аднаго ў поўным свядомым і актыўным удзеле ў адзінстве Касцёла. Францішак паказвае нам, што мы не павінны баяцца рознагалоссяў. Яго прыклад слухання супрацьстаіць перакананням і структурам, што робіць магчымым існаванне клерыкалізму і іерархічнасці.

Гэты Папа зрабіў адным з прыярытэтных кірункаў экуменічны і міжканфесійны дыялог. Супрацоўніцтва з біскупамі, патрыярхамі, рабінамі і імамамі, што кажа пра імкненне да будаўніцтва мастоў, а не муроў, практыкаванні "культуры сустрэчы" на карысць супакою і салідарнасці. Гатоўнасць Францішка выйсці па-за межы формулы "мы супраць іх" наследуе ўзаемадзеянне Езуса з язычнікамі.

Як і Езус, Францішак паказвае нам, што слуханне іншых (асабліва тых, хто лічыцца іншымі) можа дапамагчы нам стаць больш уважлівымі і чуйнымі да прысутнасці і дзеяння Бога ў людзях і месцах, у якіх мы не спадзяёмся Яго спаткаць.

## Прабачэнне

На пытанне: "Хто такі Хорхе Марыя Берголіа?" Францішак адказаў: "Я грэшнік. Гэта і ёсць самае дакладнае вызначэнне. Гэта не стылістычная фігура і не літаратурнае перабольшанне. Я грэшнік." Францішак адкрываецца як асоба ў непарыўнай сувязі з міласэрнасцю Бога. Здымкі часта паказваюць Папу, які прымае сакрамант прымірэння. Ён спавядаецца кожныя два тыдні, пацвярджаючы на практыцы свае словы, што "Бог ніколі не стамляецца нам прабачаць".

Падчас сваіх падарожжаў па свеце Францішак звяртаўся з эмацыйным заклікам даравацьь мінулыя і сучасныя праявы занядбання і злоўжыванняў у Касцёле: у Мексіцы ў 2016 годзе, у Бангладэш у 2017-ым, у Ірландыі ў 2018-ым, у Румыніі ў 2019-ым.

Францішак не пазбягаў прасіць прабачэння і за ўласныя недахопы. Узгадаем хоць бы той памятны выпадак напярэдадні Новага года, калі жанчына схапіла яго за руку, а Папа, спрабуючы вызваліца, пляснуў ёй па руцэ. На наступны дзень ён прынёс асабістае прабачэнне за страту цярплівасці і дрэнны прыклад.

Жаль Францішка нагадвае нам, што Касцёл, як пісаў Томас Мертан, – гэта "цела са зламаных костак". Першыя крокі да надзеі і ацалення патрабуюць жалю і пакаяння. Сваімі словамі і ўчынкамі Францішак паўтарае тое, што казаў Езус: "Не судзіце, каб вас не судзілі. Бо <...> якой мераю мераеце, такой і вам будзе адмерана" (Мц 7, 1-2).

## Прысутнасць

Першы візіт Папы Францішка за межы Рыма быў на востраў Лампедуза ў ліпені 2013 года, дзе ён імкнуўся прыцягнуць увагу да цяжкага становішча мігрантаў і ўцекачоў, якія пераўтвараюць Міжземнае мора ў "велізарныя могілкі". Першая міжнародная паездка адбылася літаральна праз пару тыдняў у Рыа-дэ-Жанейра – у Бразілію на Сусветныя дні моладзі, дзе ён некаторы час размаўляў з жыхарамі фавэл (трушчоб) і маліўся з імі.

Францішак не збіраўся шмат вандраваць як Папа, бо не меў раней такой звычкі. Да таго ж з прычыны сталага ўзросту ёсць цяжкасці са здароўем, але сумленне клікала яго служыць сваёй прысутнасцю людзям, якія былі адсунутыя на перыферыю грамадскага жыцця. У сваім прыкладзе "сыходнай мабільнасці", як назваў гэта Дзін Брэклі SJ, Францішак заклікае нас зруйнаваць ідалаў бяспекі, статусу і камфорту.

Этымалогія слова "міласэрнасць" (з лацінскага – misericordia) кажа пра сардэчнасць да тых, хто пакутуе. Францішак паказвае нам, што мы павінны падысці да людзей, якія церпяць, сузіраць іх твары і ўступаць у адносіны з імі як з рэальнымі асобамі, а не як з агульнымі катэгорыямі людзей, каторых мы называем "беднымі", "галоднымі", "чужаземцамі" або "хворымі." На Лампедузе Францішак выкрыў "глабалізацыю абыякавасці" да адчаю і несправядлівасці, з якімі сутыкаецца столькі нашых братоў і сясцёр. Ён заклікаў "ісці і рабіць так", як самаранін, каторы сыходзіць на ўзбочча дарогі і клапоціцца пра няшчаснага, якога пакінулі паміраць.

Змена шляху, якім мы крочым, і пераймання пункту гледжання ўразлівых і маргінальных груп – гэта вырашальны спосаб пераадолець недавер і падзел, каб стаць пасланнікам "культуры сустрэчы". Францішак вучыць нас, што мы не можам дапамагчы бедным да таго часу, пакуль не наблізімся да іх, пакуль не падзелім з імі сваё жыццё і не дапаможам ім будаваць іх уласную будучыню.

Словам і чынам Папа Францішак вучыць нас, што любоў да Бога і бліжняга павінна знаходзіць выраз у пакоры, інклюзіі, слуханні, прабачэнні і прысутнасці, якая асабліва неабходная побач з тымі, хто сумняваецца ў сваёй вартасці і сэнсе існавання. На фоне вялікай колькасці фактараў, якія адцягваюць нашую ўвагу, і безлічы прычын для роспачы Францішак паказвае нам, што наша фізічная прысутнасць мае значэнне. Больш за тое, мы ўцелаўляем Божую любоў у свеце такімі, якімі мы ёсць, і там, дзе мы ёсць. Як настойвае св. Ігнацый і паказвае Папа Францішак, любоў трэба ўкладаць больш у справы, чым у словы.

*Крыніца: 5 lessons Pope Francis has taught with his actions more than his words*
*Паводле jezuity.by*

ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
CATHOLICNEWS.BY

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вінцэнты Навіцкі** *(Браслаў)*, **Марыя Гарачка** *(Шаркаўшчына)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Алена Канчанін** *(Нарач)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Яўгенія Гунько** *(Барысаў)*, **Аліна Качан** *(Станулёва)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Ганна Анішкевіч** *(Паставы)*, **парафіяне з Бягомля**, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Карневіч Е.В.** *(Ніўнае)*, **Сурвіла В.А.** *(Шэметава)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуцi)*, **Людміла Штокіна** *(Віцебск)*, **Зенона Алькснін** *(Браслаў)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Даната Алейнік** *(Мосар)*, **Зоф'я Саковіч** *(Мосар)*, **Марыя Міронава** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Алена Ліпская** *(Мосар)*, **Вераніка Курыловіч** *(Мосар)*, **Уладзіслава Бохан** *(Мосар)*, **Ларыса Фёдарава** *(Глыбокае)*, **Аліна Бука** *(Мосар)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Зоф'я Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Ірэна Сіманенкава** *(Мосар)*, **Чэслава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Галіна Сінкевіч** *(Глыбокае)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі-2)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Ніна Васеха** *(Наваполацк)*, **Марыя Сяліцкая** *(Параф'янава)*, **Тэрэза Цвіклінская** *(Шунеўцы)*, **Сапель М.А.** *(Браслаў)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Ганна Пілецкая** *(Навалукомль)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Бенедзікта Баранава** *(Двор Пліна)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **парафіяне з Браслава**, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Валянціна Маісеева** *(Сталіца)*, **Валянціна Лучэна** *(Слабодка)*, **Елізавета Барткевіч** *(Слабодка)*, **Стэфанія Глод** *(Слабодка)*, **Даната Далецкая** *(Слабодка)*, **Вера Дундзер** *(Слабодка)*, **Люцыя Арсюкова** *(Слабодка)*, **Яніна Вільчынская** *(Слабодка)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Юзэфа Мількевіч** *(Веркаўшчына)*, **Марыя Угарэнка** *(Слабодка)*, **Ядвіга Піліпенка** *(Параф'янава)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Голуб Л.В.** *(Дуброўшчына)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

## На красавік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. пралат Францішак Кісель** *(Полацк)*, **кс. Чэслаў Курэчка MIC** *(Росіца)*;

**4 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Эдуард Сінкевіч SCJ** *(Паставы)*;

**8 красавіка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** *(Навалукомль)*;

**10 красавіка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**11 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валеры Орсік** *(Віцебск)*;

**13 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*, **кс. Алег Хмылко** *(Віцебск)*;

**17 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Вільк SCJ** *(Варапаева)*;

**19 красавіка** – імяніны адзначае **кс. Валеры Марціноўскі** *(Паставы)*;

**22 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*;

**23 красавіка** – імяніны адзначаюць **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*, **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*, **кс. Юрый Вільк SCJ** *(Варапаева)*, **кс. Юрый Жаўнеровіч** *(Ахрэмаўцы)*, **бр. Войцех Врублеўскі OFMCap** *(Докшыцы)*;

**24 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **бр. Войцех Врублеўскі OFMCap** *(Докшыцы)*;

**25 красавіка** – імяніны адзначае **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*;

**26 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Генадзь Добрук** *(Гродзенская дыяцэзія)*;

**28 красавіка** – імяніны адзначае **кс. Віталь Бяленік** *(Падсвілле)*.

*Падрыхтаваў*
***Зміцер Лупач***

# Пасхальны Трыдуум



**Перыяд Вялікага посту мае на мэце падрыхтаваць хрысціян да перажывання Велікодных Святаў, а Пасхальны Трыдуум з'яўляецца вяршыняй святкавання Вялікадня. Што Вы ведаеце пра Пасхальны Трыдуум? Праверце свае веды, прайшоўшы новы тэст "Каталіцкага Весніка".**

**1** Якія дні ўваходзяць у Пасхальны Трыдуум?



**А.** Нядзеля, панядзелак, аўторак
**Б.** Панядзелак, аўторак, серада
**В.** Чацвер, пятніца, субота

**2** Імша ў Вялікі Чацвер, якую цэлебруе біскуп разам са сваімі прэзбітарамі, называецца:



**А.** Імша Вячэры Пана
**Б.** Імша Хрызма
**В.** Літургія Мукі Пана

**3** Што з пералічанага бласлаўляюць на Імшы Хрызма?



**А.** Алей
**Б.** Ваду
**В.** Кветкі

**4** Падчас Апошняй Вячэры Езус устанавіў:



**А.** Усе сакраманты
**Б.** Сакраманты хрысціянскага ўтаямнічання
**В.** Сакрамант Эўхарыстыі і святарства

**5** Літургія Вялікага Чацвярга завяршаецца пераносам Найсвяцейшага Сакраманту ў:



**А.** Закрыстыю
**Б.** Цямніцу
**В.** Грабніцу

**6** У які дзень Пасхальнага Трыдуума адарацыя крыжа з'яўляецца часткай Літургіі?



**А.** Вялікі Чацвер
**Б.** Вялікая Пятніца
**В.** Вялікая Субота

**7** Адзіны дзень у Літургіі Касцёла, калі няма святой Імшы:



**А.** Вялікі Чацвер
**Б.** Вялікая Пятніца
**В.** Вялікая Субота

**8** Якога колеру арнат апранае святар падчас Літургіі Мукі Пана?



**А.** Фіялетавы
**Б.** Чырвоны
**В.** Белы або залаты

**9** Як называецца Літургія Вялікай Суботы?



**А.** Пастэрка
**Б.** Пасхальная вігілія
**В.** Рэзурэкцыя

**10** Што азначае слова Пасха – (па-габрэйску – "Пэсах")?



**А.** Новае жыццё
**Б.** Уваскрасенне
**В.** Пераход

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

Правільныя адказы на старонцы 12

Каталіцкі ВЕСНІК №3 (108) сакавік 2020 г.

## Айцец Віктар Жук SJ:

# "У Маніле на працэсію Black Nazarene збіраецца мільён вернікаў"

## Гутарка пра Філіпіны і езуіцкую фармацыю



Айцец Віктар Жук SJ, пробашч парафіі Святога Уладзіслава ў Віцебску, вярнуўся з трэцяй прабацыі айцоў-езуітаў у Філіпінах. Пра Касцёл у Філіпінах і дзейнасць езуіцкага ордэна пойдзе гаворка ў гэтым інтэрв'ю.

**– Айцец Віктар, езуіцкая фармацыя даволі доўгая і напружаная. Як так атрымалася, што месцам Вашай трэцяй прабацыі сталі Філіпіны?**

– Сапраўды, была магчымасць перажыць яе дзенебудзь у Еўропе ці Амерыцы, але мне хацелася апынуцца ў больш місійнай рэальнасці, але з традыцыяй еўрапейскай культуры. Філіпіны якраз аказаліся такім месцам. Хрысціянства там з'явілася ў XVI ст. праз служэнне іспанскіх місіянераў. Сёння гэта пераважна каталіцкая краіна. Вернікі актыўна практыкуюць сваю веру. Сталіца Філіпін горад Маніла нават падзелены на некалькі дыяцэзій.

**– Як выглядала Ваша прабацыя? Чым Вы займаліся?**

– Я правёў у Філіпінах шэсць месяцаў. Са мной было яшчэ дзевяць братоў-езуітаў і два айцы-інструктары. Прыкладна палова часу давялося правесці па-за супольнасцю. Адзін месяц – гэта былі духоўныя практыкаванні, яшчэ месяц – пастырскі вопыт у гарах сярод філіпінскіх тубыльцаў. Прабацыя неабходная, каб падсумаваць свой манаскі і святарскі досвед і пабачыць, у якім кірунку ісці далей.

**– Чым адметны Касцёл у Філіпінах?**

– Кідаецца ў вочы, што вернікі прыходзяць на набажэнствы сем'ямі, а таксама што ўсе парафіяне, незалежна ад свайго ўзроўню даходаў, прымаюць актыўны ўдзел у фінансаванні парафіі. Яны ў гэтым сэнсе надта адказныя. Вельмі вялікая павага існуе да святароў. Ёсць пабожны звычай, калі пасля св. Імшы дзеці падыходзяць да ксяндза, бяруць яго руку і дакранаюцца ёй да свайго ілба. Гэта такая форма благаслаўлення. Хоць са споведдзю часам бываюць праблемы, бо колькасць людзей агромністая і святары не паспяваюць быць даступнымі для кожнага.

**– А як з апладысментамі ў касцёле?**

– Насамрэч яны вельмі папулярныя, гэта элемент лакальнай культуры. Кожная св. Імша заканчваецца менавіта імі. Гэта такая форма ўрачыстай радасці ад сустрэчы з Хрыстом у Эўхарыстыі. Філіпінцы вельмі непасрэдныя, з іх твару амаль не сыходзіць усмешка. Асаблівасцю мясцовай традыцыі ёсць таксама літургічныя танцы, працэсіі ў танцах. Мяне моцна ўразіла іх традыцыя прыносіць на ахвяраванне дароў менавіта тое, што яны самі сабралі ў сябе на полі. У еўрапейскай традыцыі людзі прыносяць у якасці ахвяраванняў толькі грошы. На Філіпінах – гэта таксама плён сельскагаспадарчай працы, які пасля св. Імшы святар раздае тым, хто мае найбольшую патрэбу.

**– Якая на Філіпінах сітуацыя з пакліканнямі да святарства і манаскага жыцця?**

– Філіпіны – гэта краіна выспаў. У ёй налічваецца больш за 7000 выспаў, хоць сумарна тэрыторыя не нашмат большая за Беларусь. Дарэчы, там сто мільёнаў насельніцтва. Зразумела, для такой колькасці вернікаў і з улікам асаблівасцяў тэрыторыі неабходна шмат святароў. І гэтыя пакліканні ёсць. Яны пераважна ў дыяцэзіяльных семінарыях. Каб чытачы "Каталіцкага Весніка" маглі сабе ўявіць памеры Касцёла ў Філіпінах, прывяду адзін прыклад. У Маніле на працэсію Black Nazarene (Чорны Назаранін – маецца на ўвазе працэсія з фігурай Езуса Хрыста цемнаватага колеру, Які нясе крыж) збіраецца мільён вернікаў. Нават цяжка сабе ўявіць такі натоўп. На шчасце, яшчэ ні разу ніхто не загінуў у такой масе людзей, хоць траўмаванні, напэўна, бывалі.

**– Што Вы можаце сказаць пра грамадства ў цэлым? Які ўзровень даходаў людзей?**

– Філіпінскае грамадства, на жаль, надта рознае ў фінансавым плане. Існуе вялікая адлегласць паміж найбяднейшым класам і сярэднім. І многае тут залежыць ад адукацыі, якая ў Філіпінах амаль заўсёды платная. Бедныя бацькі не могуць даць сваім дзецям адукацыю, а гэта значыць, што і з добрай працай у іх будуць праблемы. Адсюль і вялікая працоўная міграцыя ў іншыя краіны. Каля 10 працэнтаў філіпінцаў працуюць за мяжой. Гэта, у сваю чаргу, стварае прэцэдэнты іх несправядлівага выкарыстання і эксплуатацыі.

**– Што было самым цяжкім падчас гэтай прабацыі для Вас?**

– Часам было даволі горача, можна сказаць, што гэта было сапраўднае выпрабаванне. Мясцовая ежа мае свае асаблівасці, да яе таксама трэба было прызвычаіцца. Хоць колькасць садавіны проста вялізная! Такіх фруктаў, якія я еў на Філіпінах, у Беларусі зусім няма. Мне нават цяжка распавесці пра іх смак, бо не магу ні з чым параўнаць. Давялося паесці слімакоў. Для мяне такая ежа – гэта экзотыка. На адной выспе была праблемная камунікацыя з мясцовымі жыхарамі, бо яны амаль не ведалі англійскай мовы. А калі мы не разумеем адно аднаго – гэта вельмі цяжка ў плане душпастырства.

**– А чым у асноўным займаюцца езуіты на Філіпінах?**

– У нас там даволі вялікі абсяг дзейнасці. Вядома, гэта адукацыя. Езуіты ўтрымліваюць і развіваюць універсітэты. Адзін мой сабрат працуе сярод тубыльцаў і яго ідэя – аднавіць лес на выспе. Справа ў тым, што ў 70-х гадах XX ст. лес быў высечаны на патрэбы прамысловасці, і гэта моцна паўплывала як на экалогію, так і на мясцовыя плямёны, каторыя там жывуць. Каб захаваць іх самабытнасць і паспрыяць развіццю рэгіёна, цяпер мы аднаўляем гэты лес.

**– Ну, а ў Беларусі ў Вас заданне аднаўляць лес людскіх сэрцаў. Жадаю Вам у гэтым поспехаў і Божага благаслаўлення!**

– Дзякуй вялікі!

*Гутарыў*
***кс. Віктар Місевіч***





# Эўхарыстыя першых хрысціянаў

**Эўхарыстыя, або інакш святая Імша, на працягу стагоддзяў выглядала зусім па-іншаму, чым сёння.**

■ **а. Аляксандр Жарнасек MIC**, *viartannie.org*

З аднаго боку, гэта цудоўна, што літургія развіваецца і становіцца больш багатай, а з іншага, за гэтым "багаццем" часам трацяцца асноўныя знакі і сімвалы і літургія становіцца незразумелай для сучаснага чалавека. Менавіта таму Другі Ватыканскі Сабор зрабіў літургію святой Імшы больш простай, каб падкрэсліць яе галоўныя элементы. Сёння ў Касцёле ёсць шмат крокаў, каб вярнуцца да сімволікі абрадаў першых стагоддзяў хрысціянства. Часта веданне гісторыі дапамагае нам зразумець сучаснасць. Разуменне гісторыі развіцця літургіі Эўхарыстыі не будзе тут выключэннем.

## Габрэйская Пасха

У поўнай меры Пасху можна было святкаваць толькі ў Ерусаліме, паколькі там была адзіная святыня, дзе забівалі на Пасху ягня, якое пасля трэба было спажыць падчас рытуальнай вячэры. Узначальваў такую вячэру звычайна бацька сям'і або духоўны настаўнік, вакол якога збіраліся вучні (духоўная сям'я). Менавіта такую Пасху святкаваў Хрыстос, і яна павінна была адбыцца менавіта ў Ерусаліме.

Вячэра мела адпаведны парадак. Прыносілі спечанае ягнё (на ўспамін крыві ягняці, што ацаліла ізраільскі народ у Егіпце), два прэсныя хлябы (на ўспамін хуткага выхаду з Егіпта) і горкія зёлкі (на ўспамін цяжкага жыцця ў егіпецкім рабстве). Наймалодшы ўдзельнік павінен быў запытацца, чым пасхальная ноч адрозніваецца ад іншых начэй. Адказваючы на гэтае пытанне, бацька (настаўнік) абвяшчаў пасхальную хагаду, г.зн. апавядаў пра вялікія справы, якія на працягу вякоў чыніў Бог для народа. Пасля надыходзіў абрад бласлаўлення хлеба, які ў духу адзінства ламалі ўсе прысутныя і спажывалі. Пасля спажывалі спечанае ягнё і іншыя стравы. Тут ужо была паўнавартасная ежа. Калі нехта спазняўся, то не мог ужо прымаць удзел у гэтай вячэры.



Пасля ежы бацька браў келіх віна і прамаўляў малітву бласлаўлення і падзякі Богу за стварэнне, вызваленне з няволі, за апеку на працягу стагоддзяў і за выбранне народа. Прасіў таксама літасці на далейшыя гады. Між іншым гучалі словы: "... каб яшчэ пры нашым жыцці прыйшлі Ілля і Месія, Сын Давіда". Для габрэя-верніка пасхальная вячэра была не толькі сімволікай. Ён верыў, што гэта не толькі продкі, але ён сам быў вызвалены з няволі, быў выбраны Богам і ўбачыць Месію.

Менавіта гэтыя элементы мы бачым падчас Апошняй Вячэры. Езус бласлаўляе і ламае хлеб, а таксама бласлаўляе келіх. Пасля мы чытаем у Евангеллі, што Ён са сваімі вучнямі праспяваў гімн перад выходам на Аліўную Гару. Мы не бачым усіх элементаў габрэйскай Пасхі. Напрыклад, не чытаем пра спечанае ягня. Езус выкарыстоўвае сімволіку Пасхі. Тое, што габрэі ўзгадвалі, адбываецца менавіта цяпер – вызваленне з рабства смерці і граху (Егіпет), цяпер Бог выбірае (усынаўляе) народ (падняўшы келіх, Езус кажа пра Кроў Запавету, новага Саюзу), цяпер вучні сустракаюцца з Месіяй, і будзе споўнена Яго галоўнае заданне. Евангеллі не ўзгадваюць пра спечанае ягня, таму што сам Хрыстос выканае ролю гэтага Ягняці.

## Назвы

Першыя хрысціяне называлі Эўхарыстыю "Вячэрай Пана", або "Ламанне Хлеба". У пратэстантаў да сённяшняга дня часта сустракаецца паняцце "хлебапраламленне". Аднак гэтыя назвы не прыжыліся ў старажытным Касцёле. З'явілася паняцце "Эўхарыстыя", што азначае "малітва падзякі" (магчыма, таму, што ў абрадзе габрэйскай Пасхі было шмат праслаўлення). Пасля з'явілася лацінская назва "Місса". Гэта слова не багатае на семантыку, але менавіта яно прыжылося. Слова "Місса" мае два значэнні – "адпускаць" і "місія" – "заданне". Гэтым словам у Рымскай Імперыі заканчваліся ўсе масавыя сустрэчы. На заканчэнне Эўхарыстыі святар таксама казаў гэтае слова, якое, праўдападобна, мела двайное значэнне: усё скончана або мы атрымалі заданне, місію.

## Эўхарыстыя Апосталаў і першых вучняў

Няшмат мы маем сведчанняў, як выглядала Эўхарыстыя першага стагоддзя. Аднязначна можна сказаць, што асноўны ўплыў на яе аказвала габрэйская Пасха, але нядоўга, таму што яна мела багатую сімволіку і традыцыю, а ўжо евангелісты Марк і Мацвей даволі сціпла паказваюць Апошнюю Вячэру Езуса. У вельмі кароткім часе Эўхарыстыя сфарміравала свае асаблівасці. Яе асноўныя рысы – гэта сціпласць і прастасць. Менавіта таму мы не знаходзім багатага апісання Эўхарыстыі ні ў Евангеллі, ні ў Пасланнях апостала Паўла. Хрысціянаў больш цікавіў не сам абрад, а рэальная прысутнасць Уваскрослага Хрыста. І таму яны звярталі ўвагу далёка не на прыгажосць літургіі. Характэрнымі рысамі старажытнай Эўхарыстыі былі спантанныя і простыя, шчырыя малітвы. Нягледзячы на спантаннасць, хрысціяне былі падпарадкаваныя аўтарытэту Апосталаў, і менавіта таму ідзе размова пра свабоду ў малітве. Але, разам з тым, за гэтай свабодай назіралі Апосталы. З гэтай прычыны, нягледзячы на спантаннасць, абрад Эўхарыстыі атрымаў супольны, агульны для ўсіх напрамак.



Месцам цэлебрацыі Эўхарыстыі былі звычайныя дамы. Часам гэта былі большыя залы. Калі-нікалі вернікі сустракаліся ў катакомбах. Не таму, што іх пераследавалі, а таму, што там было больш месца, а з іншага боку і сімволіка – месца пахавання памерлых, якіх Хрыстос паклікаў у Нябеснае Валадарства. Смерць перастала быць ворагам.

У першыя гады Эўхарыстыя не была злучана з чытаннем Святога Пісання. Хрысціяне габрэйскага паходжання і надалей хадзілі ў сінагогі, каб слухаць Божае Слова. А хрысціяне язычніцкага паходжання найперш вывучалі Пісанні. Канечне, гэта былі тэксты Старога Запавету, да якога паступова дадаваліся кнігі Новага Запавету.

Абрад Эўхарыстыі вернікі перадавалі адно аднаму. Усё было настолькі спантанна, што ў Лісце да Карынцянаў апостал Павел піша, каб пачалі аддзяляць Эўхарыстыю ад звычайнай братэрскай вячэры, якую хрысціяне называлі "агапай" (братэрская любоў). Апостал звяртае ўвагу на недахоп еднасці паміж вернікамі і на п'янкі, якія пачалі здарацца падчас "агапаў" (1 Кар 11,17-34). Было прынята дысцыплінарнае рашэнне, каб найперш адпраўляць абрад Эўхарыстыі, а толькі пасля рабіць "агапу". З невядомых прычынаў "агапы" даволі хутка перасталі існаваць. Сёння гэтую практыку спрабуюць аднавіць некаторыя рухі, напрыклад, дарога неакатэхуменальная. Пасля Другога Ватыканскага Сабору некаторыя пачалі лічыць, што Эўхарыстыя – гэта звычайная вячэра, а не нейкі асаблівы абрад.

Усе гэтыя гісторыі паказваюць, наколькі спантанна фармаваўся абрад Эўхарыстыі і наколькі небяспечным і незразумелым быў факт прысутнасці вячэры падчас Эўхарыстыі. З аднаго боку, алтар нам нагадвае сёння месца, дзе адбываецца Ахвяра. Вобразна кажучы, гэта тое месца, дзе Абрагам гатовы быў скласці ў ахвяру свайго сына Ісаака. А з іншага боку, алтар нам павінен нагадваць звычайны стол, за якім усе сядаюць і спажываюць вячэру.

*Працяг чытайце на старонцы 13*



**Габрэйская Пасха**



**Эўхарыстыя Апосталаў і першых вучняў**



**Эўхарыстыя IV – VII ст.**

# Каляндар на красавік

**У гэтым месяцы мы адзначаем самае вялікае свята хрысціянаў – Вялікдзень. А таксама перажываем Вялікі Тыдзень – час разважанняў пра пакуты і смерць на крыжы Езуса Хрыста.**

**5 красавіка – Пальмовая нядзеля або Нядзеля Мукі Пана.**



У гэты дзень Касцёл успамінае ўваход Езуса Хрыста ў Ерусалім для здзяйснення Пасхальнай таямніцы. У знак ушанавання і памяці пра трыумф Езуса Хрыста пры ўваходзе ў горад асвячаюцца галінкі пальмы, вярбы, ядлоўцу, часта ўпрыгожаныя кветкамі і стужкамі. Пальма сімвалізуе жывую веру хрысціяніна, што ідзе за Хрыстом, Які перамог смерць. Гэтая дарога заўсёды вядзе да вечнай славы на нябёсах.

Несучы пальмы, вернікі прызнаюць у Езусе абяцанага Месію. Гэты жэст – відавочны знак адкрыцця сапраўднай ідэнтычнасці Езуса. Звычай асвячэння пальмаў з'явіўся ў Касцёле ў адзінаццатым стагоддзі.

**9 красавіка – Вялікі Чацвер.**



У Вялікі Чацвер адбылася Апошняя Вячэра Езуса Хрыста са сваімі вучнямі – апосталамі. У гэты дзень у касцёле ўвечары адпраўляецца ўрачыстая св. Імша Вячэры Пана, якая распачынае святы Пасхальны Трыдуум. Яна адпраўляецца ў памяць Апошняй Вячэры, падчас якой Хрыстос ахвяраваў Богу Айцу пад выглядам хлеба і віна сваё Цела і Кроў, а пасля даў апосталам да спажывання і наказаў, каб яны рабілі гэта на Яго памяць. Падчас святой Імшы ў Вялікі Чацвер біскуп ці святар абмывае ногі дванаццаці вернікам у знак пакоры і любові да бліжняга, паўтараючы прыклад Хрыста, Які мыў ногі апосталам. Святары цэлебруюць Імшу ў белых ці залатых арнатах. Пасля ўваходнай працэсіі і ўступных абрадаў спяваецца гімн "Хвала на вышынях Богу", падчас якога звоняць усе званы касцёла. Пасля гімна ўсе званы і арган замаўкаюць аж да гімна "Хвала на вышынях", які спяваецца падчас Пасхальнай вігіліі. Пасля Камуніі адбываецца перанясенне Найсвяцейшага Сакраманту да месца, дзе ён будзе захоўвацца. Гэта таксама дзень устанаўлення сакрамантаў Эўхарыстыі і святарства, таму ў гэты дзень вернікі віншуюць сваіх святароў з днём святарства.

**10 красавіка – Вялікая Пятніца Мукі Пана.**



У Вялікую Пятніцу на знак вялікай павагі да крыжовай ахвяры Езуса Хрыста за грахі ўсяго свету св. Імшы не цэлебруюцца. Гэта дзень скрухі і роздуму ўсяго хрысціянскага свету. Паколькі Вялікая Пятніца з'яўляецца днём пакуты, вернікі маюць абавязак захоўваць строгі пост.

З раніцы адбываецца адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту пры цямніцы. Адпраўляецца ўрачысты Крыжовы шлях. Цэнтрам гэтага дня з'яўляецца літургія Мукі Пана. Літургія складаецца з трох частак: літургіі слова, адарацыі крыжа і абраду Камуніі. Цэнтральнай часткай літургіі Мукі Пана з'яўляецца адарацыя святога Крыжа, на якім здзейснілася збаўленне свету. Крыж не выступае выключна знакам цярпення і прыніжэння, але найперш знакам надзеі на канчатковую перамогу Езуса. За ўдзел у адарацыі крыжа і за цалаванне яго падчас літургіі Мукі Пана можна атрымаць поўны адпуст. Пасля заканчэння літургіі Мукі Пана адбываецца выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту і перанясенне яго да Гробу Панскага.

**11 красавіка – Вялікая Субота.**

У гэты дзень працягваецца малітва вернікаў каля Грабніцы Езуса Хрыста. Таксама на працягу ўсяго дня ў касцёле асвячаюцца велікодныя стравы для святочнага стала. Пасля заходу сонца адбываецца ўрачыстая Пасхальная Вігілія, надзвычай прыгожая і вымоўная ў сваіх абрадах. Святы Аўгусцін называў Пасхальную Вігілію "маці ўсіх вігілій". Падчас яе асвячаецца агонь, пасхальная свечка, вада і спяваюцца велікодныя гімны. У гэтую ноч Касцёл чакае Уваскрасення Езуса Хрыста і ўрачыста яго святкуе.



**12 красавіка – Вялікдзень. Дзень Уваскрасення Хрыста. Галоўнае хрысціянскае свята.**



Літургічная цэлебрацыя нядзелі Уваскрасення распачынаецца на світанні. З самай раніцы ва ўсіх касцёлах адбываецца ўрачыстая працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам вакол святыні або вуліцамі гарадоў, мястэчак, вёсак, а затым цэлебруецца ўрачыстая святая Імша, якая называецца Рэзурэкцыйнай (ад лацінскага слова resurrectio – уваскрасенне).

Гэта таксама той дзень, калі ўся сям'я збіраецца разам за велікодным сталом і спажываюцца асвечаныя стравы. Чытаецца ўрывак з Евангелля і малітвы. Усе дзеляцца асвечаным яйкам з соллю, а пасля частуюцца рознымі стравамі. Першы дзень Вялікадня – дзень сямейны.

**19 красавіка – Нядзеля Божай Міласэрнасці.**



Гэтае свята для паўсюднага Касцёла было ўстаноўлена Папам Янам Паўлам II у лістападзе 2000 г. Адзначаецца яно ў другую Велікодную нядзелю. 22 лютага 1931 г. Хрыстус аб'явіўся с. Фаўстыне Кавальскай у кляштары сясцёр Маці Божай Міласэрнасці ў Плоцку, якой і паведаміў пра Сваё жаданне ўстанавіць свята Божай Міласэрнасці. Святая Фаўстына перажыла 23 містычныя аб'яўленні, пра якія апавядаецца ў яе "Дзённіку", каторы яна вяла згодна з жаданнем Хрыста і спаведнікоў. У ім апісваюцца перажытыя цярпенні, містычны стан і аб'яўленні. Яны датычаць, між іншым, стварэння абраза "Езу, давяраю Табе", малітвы Вяночак да Божай Міласэрнасці, устанаўлення Гадзіны Міласэрнасці (15.00 – гадзіна смерці Хрыста на крыжы) і свята Божай Міласэрнасці. Гэтае свята не толькі дзень асаблівага праслаўлення Бога ў таямніцы міласэрнасці, але таксама і час ласкі для ўсіх людзей. "Я прагну, – сказаў Пан Езус, – каб свята міласэрнасці было выратаваннем і прытулкам для ўсіх душаў, і асабліва для бедных грэшнікаў" (Дз. 699).

**25 красавіка – успамін святога Марка, евангеліста.**



Марк быў вучнем і перакладчыкам святога апостала Пятра, які называў яго "сваім сынам". Ён з'яўляецца аўтарам другога Евангелля, найкарацейшага з чатырох. Паводле Новага Запавету, Марк быў сынам Марыі з Ерусаліма, у доме якой рэгулярна збіраліся першыя хрысціяне. Лічыцца, што ён быў першым біскупам Александрыі, дзе дзякуючы яго дзейнасці станавілася ўсё больш і больш хрысціянаў. Раздражнёныя гэтым паганцы схапілі Марка, калі ён служыў святую Імшу, і цягнулі яго на вяроўцы па вуліцах горада. Не перажыўшы такога здзеку, на наступны дзень Марк памёр. Яго рэліквіі знаходзяцца ў катэдры Сан-Марка ў Венецыі, апекуном якой ён з'яўляецца. Сімвал евангеліста – леў.

Святы Марк лічыцца апекуном пісьменнікаў і мастакоў, праз яго заступніцтва сяляне просяць добрага надвор'я і спрыяльных дажджоў.

**29 красавіка – свята св. Кацярыны Сіенскай – панны і доктара Касцёла, апякункі Еўропы.**



Кацярына Бенінказа нарадзілася ў 1347 г. і была дачкой фарбавальніка з Сіены (Цэнтральная Італія). Ва ўзросце 12 гадоў Кацярына, згодна з жаданнем бацькоў, павінна была выйсці замуж, аднак глыбокая рэлігійнасць і багатае ўнутранае жыццё схілілі яе да таго, каб уступіць у Трэці закон даміліканаў. Паводле ўласных словаў святой, яна перажыла "духоўныя заручыны" з Хрыстом. Сваім гераічным хрысціянскім жыццём, напоўненым самаахвярнай любоўю да бліжніх у імя Хрыста, яна прыцягнула да сябе шмат прыхільнікаў з усіх сацыяльных пластоў. Памерла ў Рыме ва ўзросце 33 гадоў, у апошнія гады жывучыся выключна Эўхарыстыяй. Святая Кацярына Сіенская з'яўляецца апякункай Італіі і Еўропы. Яе заступніцтва просяць хворыя на чуму і тыя, хто пакутуе ад галаўных боляў.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны пятніцу з 17.00.

Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

# Ігнацыянская духоўнасць

**Практыкаванне ігнацыянскай духоўнасці часта радыкальна змяняе жыццё чалавека. Але як яе можна акрэсліць? Чым яна прываблівае да сябе людзей?**

Паняццем "духоўнасць" часта ахопліваецца занадта шмат праблем і з'яў. Мы будзем мець на ўвазе ў гэтым артыкуле пэўны метад духоўнага развіцця, шлях, якім чалавек ідзе, каб развіваць сваё духоўнае жыццё. Дарогі, метады, спосабы насамрэч вельмі адрозніваюцца ў залежнасці ад рэлігіі і нават ад асаблівасцяў унутры адной рэлігійнай плыні.

Хрысціянская духоўнасць (якая нас найбольш цікавіць) – гэта дарога, метад, спосаб духоўнага развіцця, які палягае на ...наследаванні Езуса Хрыста. Так, Бог прыйшоў у свет і паказаў, што значыць быць у поўнай меры чалавекам, а значыць і ў духоўным аспекце таксама. Калі я маю жаданне духоўна развівацца, мне трэба браць прыклад з Езуса. Маліцца, як Ён, разважаць, будаваць такія ж міжасобасныя сувязі, як Ён, працаваць, служыць і г.д. Іншымі словамі, хрысціянская духоўнасць засноўваецца на тым, каб мацней любіць – Бога, сябе і іншых, таму што для Езуса найважнейшай была любоў.

Як выглядае справа з адметнасцямі ўнутры хрысціянства? Рознасць заключаецца ў шляхах, метадах, спосабах пераймання Езуса і ўзрастання ў любові. Хрысціянскія ў сваёй аснове, яны акамулююць розныя спосабы прыпадабнення да Езуса. Напрыклад, францішканская духоўнасць будзе дапамагаць хрысціяніну наследаваць Езуса ва ўбостве і радасці. Марыйная духоўнасць будзе фармаваць стыль аддання сябе Марыі, каб Яна выхоўвала нас так, як выхоўвала Езуса, і каб мы былі падобныя да Яго.

Ігнацыянская духоўнасць падкрэслівае паслухмянасць Езуса і Яго гатоўнасць да місіі. Езуіцкая духоўнасць – найбольш значны рух рэлігійнага аднаўлення ў эпоху Новага часу. Яна з'яўляецца плёнам асабістага досведу св. Ігнацыя Лаёлы і Божым дарам для Касцёла. Гэты асаблівы падыход да духоўнага жыцця вучыць нас актыўнай уважлівасці да Бога, пабуджае таксама да велікадушнага адказу на заклік Духа, Які няспынна дзейнічае ў чалавечых сэрцах.

Езуіты, а таксама асобы, уключаныя ў разнастайную ігнацыянскую дзейнасць, часта згадваюць пра "наш спосаб дзеяння". Складана вычарпальна акрэсліць гэты збор поглядаў, звычаяў і каштоўнасцяў, якія надаюць ігнацыянскай справе яе характэрны абрыс. Ігнацый Лаёла, заснавальнік ордэна езуітаў, прысвяціў шмат увагі "нашаму спосабу дзеяння", калі апрацоўваў Канстытуцыі Таварыства Езуса. Зрэшты, яго больш цікавіў цэласны падыход да асобы, чым фармуляванне правіл. Ён не вызначыў езуіцкую форму дэталёва, але цаніў пэўны кшталт мыслення, малітвы і паводзінаў.

### Бачанне жыцця, працы і любові

У "Духоўных практыкаваннях" Ігнацый Лаёла прадстаўляе нам сваё бачанне ў трох злучаных між сабой практыкаваннях: "Пачатак і аснова", "Заклік Караля" і "Сузіранне дзеля адшукання любові". Яго візія датычыць светаўспрымання ў цэлым, інакш кажучы, ахоплівае стаўленне да жыцця і ўзрастанне ў адносінах з Богам.

Часта можна пачуць: "Паверу, калі ўбачу". Ігнацый жа змяняе чарговасць у гэтым выразе: "Калі паверу, тады ўбачу". Святы заўважыў, што бачанне, якое носім у сваім сэрцы і розуме (можна сказаць, перадразуменне), мае велізарны ўплыў на ўспрыманне рэчаіснасці. Калі мы мяркуем, што свет ёсць змрочным месцам, поўным зла і прагных эгаістаў, якія не любяць Бога і іншых, то дакладна такі свет і такіх людзей будзем бачыць навокал сябе. Наадварот, мы калі лічым, што наш свет поўны дабрыні і магчымасцяў, што з'яўляецца месцам, якое Бог стварыў і дагэтуль падтрымлівае і любіць, тады менавіта такі свет знойдзем перад вачамі. Ігнацый быў перакананы ў тым, што бачанне або візія месціцца ў самым сэрцы нашай сувязі з Богам.

### Бачанне, якое дае ігнацыянская духоўнасць

Яна прапануе бачанне жыцця, працы і любові, якое дазваляе нам спасцігнуць, што ёсць да глыбіні праўдзівым адносна Бога і створанага Ім свету. Гэтае бачанне можна знайсці ў "Духоўных практыкаваннях", якія прызначаныя дапамагчы людзям глыбей увайсці ў лучнасць з Богам. Ігнацыянская духоўнасць вынікае менавіта з гэтай кнігі. Квінтэсэнцыя бачання Ігнацыя сцісла змешчана ў пачатку кнігі ў форме рэфлексіі пад назвай "Пачатак і аснова" ("Фундамент"), дзе гаворыцца, што Бог, Які любіць і старае нас, хоча заўжды дзяліць з намі жыццё. Мы адказваем з любоўю, калі праслаўляем, шануем і служым Яму ўсім сваім жыццём. Усе рэчы на гэтым свеце таксама створаныя Богам з любові і становяцца дарамі, складзенымі ў нашыя рукі дзеля таго, каб мы лепш пазнавалі Бога і ахвотней адказвалі Яму любоўю на любоў.

У выніку мы выказваем пашану ўсім створаным дарам і супрацоўнічаем з Богам, калі карыстаемся імі так, каб быць добрымі слугамі і ўзрастаць у любові і асабістай цэласнасці, клапоцячыся пра Божы свет і яго развіццё. Аднак калі якінебудзь Божы дар мы будзем выкарыстоўваць неналежным чынам або палічым яго цэнтрам жыцця, то тым самым парушым нашую сувязь з Богам і зробім немагчымым уласнае развіццё як асобы, каторая любіць.



Таму ў штодзённым жыцці мы павінны захоўваць раўнавагу ў выкарыстанні створаных дароў настолькі, наколькі маем магчымасць выбару і наколькі нас не звязвае адказнасць. Мы не павінны факусаваць нашыя памкненні на здароўі ці хваробе, заможнасці ці беднасці, поспеху ці няўдачы, кароткім ці доўгім жыцці. Таму што ўсё можа абудзіць у нас большую любоў як адказ на Божае запрашэнне жыць з Ім вечна.

Нашым адзіным жаданнем і адзіным выбарам павінен стаць прынцып: хачу і выбіраю тое, што найлепшым чынам вядзе мяне да паглыблення жыцця з Богам.

Першае правіла св. Ігнацыя падкрэслівае, што ўсё стварэнне – дар, які ад Бога паходзіць і да Яго вядзе. Больш за тое, "усе рэчы на аблічча зямлі" падараваныя нам, каб нам было лягчэй пазнаць Бога і адказаць узаемнасцю на Яго любоў. Гэта азначае, што Бог прысутнічае ў стварэнні. Выбары, якія мы робім кожны дзень, альбо набліжаюць нас да Бога, альбо аддаляюць ад Яго. Ігнацый успрымае Бога як Асобу, прысутную і не аддаленую ад свету. Бог зацікаўлены драбніцамі нашага жыцця, чалавечая будзённасць мае значэнне ў Яго вачах.

Разважанне "Пачатак і аснова" прадстаўляе нам бачанне жыцця, кіруе нас да яго крыніцы і паказвае сутнасць. Св. Ігнацый неаднаразова вяртаецца ў сваёй кнізе да гэтай асновы, бо яна з'яўляецца падмуркам ігнацыянскага погляду на рэчаіснасць.

### Бачанне працы

**У чым сутнасць нашай працы ў гэтым свеце? Навошта мы робім тое, што робім? Якія каштоўнасці ўплываюць на прыняцце рашэнняў?**

У "Духоўных практыкаваннях" св. Ігнацый ставіць гэтыя пытанні ў кантэксце медытацыі, якая называецца "Заклік Караля". Ён прапануе нам уявіць сабе Езуса Каралём, Якому належыць пашана і паслухмянасць. Ён – правадыр з досыць амбіцыйнымі планамі. "Хачу перамагчы ўсе хваробы, беднасць і невуцтва, прыгнёт і ўсялякае зло, якое атачае чалавецтва" – кажа Хрыстус. І далей: "Хто хоча далучыцца да гэтай справы, мусіць задаволіцца тымі ж, што і Я, сілкаваннем, напоем, адзеннем і ўсім, што сустрэнецца нам у дарозе."

Звернем увагу на дзве асаблівыя рысы гэтага бачання працы. Хрыстус, наш Кароль, кліча нас ісці следам за Ім. Сутнасць гэтага закліку не ў тым, каб спачатку выканаць нейкае спецыяльнае даручэнне. Галоўнае – прабыванне з Тым, Хто кліча. Яно выражаецца ў форме жыцця на ўзор нашага Караля. Мы мусім падзяліць жыццё Хрыста, думаць, як Ён, і чыніць тое, што Ён.

Другой рысай ёсць заклік да працы з Хрыстом, нашым Каралём. Хрыстус – не той валадар, які з вышыні трона кіруе загады сваім падданым праз іерархію князёў, графаў, лордаў і рыцараў. Ён знаходзіцца разам з намі на полі бітвы, у "адных акопах". Ён сам евангелізуе і ацаляе. Кожны чалавек асабіста запрошаны і пакліканы. Кароль хоча, каб кожны мог далучыцца да Яго. Ініцыятыва належыць Хрысту, і гэта Ён запрашае да ўдзелу і супрацоўніцтва.

### Перспектыва любові – трэцяя частка ігнацыянскага бачання

Важнейшае за ўсё тое, што Бог любіць нас і прагне ўзаемнасці. У "Духоўных практыкаваннях" шмат увагі прысвечана "Сузіранню дзеля адшукання любові" (ДП 230-237). Зараз мы спынімся на дзвюх заўвагах, якія св. Ігнацый змясціў у пачатку гэтай кантэмпляцыі. Першая кажа, што любоў трэба ўкладаць больш у справы, чым у словы, а другая, што любоў палягае на ўзаемным даванні абодвух бакоў. "У любові чалавек прагне даць другому тое, што мае".

Іспанскае слова, ужытае тут Ігнацыем, – „communicar" – азначае "дзяліцца" або "камунікаваць". Закаханыя любяць адно аднаго і дзеляцца тым, што маюць. І гэты абмен ёсць формай камунікацыі. Бог не з'яўляецца звычайным дарыцелем, але Тым, хто любіць і праяўляе да нас праз даванне. Бог нічога не затрымлівае для Сябе.

Канчатковым праяўленнем Яго дару ёсць смерць Езуса. Так Ён дзеліцца Сваім жыццём з намі. Дзеліцца з намі таксама працай, якую робіць у гэтым свеце, і таму нашая дзейнасць становіцца формай узаемнай любові. Праца гэта даволі нязвыклая. Праз запрашэнне да супрацоўніцтва Бог праяўляе сваю любоў. У сваю чаргу, мы, адказваючы працай, выяўляем любоў да Яго. Ігнацый задае пытанне: што для нас значыць любоў? Як мы яе выказваем? Як любім Бога, сябе, іншых людзей і свет? Ігнацый запрашае нас адказваць на гэтыя пытанні, сузіраючы, як Бог любіць. Ён не ставіць любові да нас ніякіх межаў.

### Ігнацыянская духоўнасць у некалькіх словах

Ігнацыянская духоўнасць палягае на свядомай працы над сабой, таму яна даспадобы ўсім тым, хто любіць разважаць, аналізаваць, даследаваць, ставіць сабе мэты і паступова, крок за крокам, дасягаць іх. Адпаведныя практыкаванні і падказкі дапамагаюць: звяртаць увагу на пачуцці, усведамляць, што з намі адбываецца; разумець, што мы адчуваем; навучыцца ўплываць на свае пачуцці; дзейсна супрацоўнічаць з Богам у працэсе свайго аздараўлення і вызвалення; свядома фармаваць сваё сэрца на ўзор Сэрца Езуса Хрыста.

*jezuity.by*

## Ваша Эксцэленцыя! Паважаны біскуп Алег!



*Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Божага блаславення, добрага здароўя і аптымізму, плёну ў Вашай нястомнай працы на Божай ніве! Няхай Дух Святы кіруе Вамі, а Святая Марыя атуляе Вас мацярынскай апекай! Шчыра дзякуем Вам за вернасць святому Касцёлу і ўсім вернікам нашай дыяцэзіі, за шчырасць і добразычлівасць, за ветлівасць і лагодную ўсмешку! Няхай добры Бог заўсёды будзе побач з Вамі!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў г. Паставы***

## Хвала Хрысту!

***Ваша Эксцэленцыя! Шаноўны біскуп Алег Буткевіч!***

*Сардэчна віншуем Вас з нагоды Дня нараджэння! Няхай Пан Бог шчодра адорыць Вас пастырскай мудрасцю, мужнасцю, цярплівасцю для плённага служэння дыяцэзіяльнай сям'і і ўсяму Касцёлу! Божай дапамогі і блаславення ў вырашэнні шматлікіх нялёгкіх пытанняў, мацярынскай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожную хвіліну Вашага жыцця!*

***З пашанай, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!

*З сардэчнай цеплынёй і малітвай віншуем паважанага **біскупа Алега Буткевіча** з Днём нараджэння!*

*Жадаем Вам, дарагі Ойча, шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя, супакою, нястомнай апекі Маці Божай! Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, якое заўсёды кранае душы людзей, робіць іх чыстымі, добрымі, шчырымі і міласэрнымі!*

*Няхай сонечныя промні Божай міласэрнасці асвячаюць кожны дзень Вашага святарскага жыцця, надаюць сілы і моцы для ажыццяўлення новых планаў, задумак на карысць Богу, людзям і Каталіцкаму Касцёлу!*

***Святары, сёстры законныя, вернікі санктуарыя Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 7**
1 – В; 2 – Б; 3 – А; 4 – Б; 5 – Б; 6 – Б; 7 – Б; 8 – Б; 9 – Б; 10 – В

## Хвала Хрысту!



*31 сакавіка адзначыць Дзень нараджэння **ксёндз Уладзіслаў Шарковіч**.*

*Шчыра віншуем Вас, ксёндз Уладзіслаў! Няхай Езус Хрыстус блаславяе Вас на доўгае і плённае святарскае служэнне, а Маці Божая хай атуляе плашчом мацярынскай апекі! Няхай Пан Бог напоўніць кожны дзень Вашага жыцця любоўю і дабрынёй!*

***Парафіяне касцёла Святой Тройцы, г. Глыбокае***

## Віншуем!



*Самыя шчырыя віншаванні адрасуем **ксяндзу Эдуарду Сінкевічу**, які верна служыць нам, парафіянам, і Богу ў Пастаўскай парафіі святога Антонія Падуанскага. Дзякуем маладому святару за яго вялікае цярпенне, за даступнае тлумачэнне Божага слова, за заняткі з моладдзю, за тое, што настойліва ўказвае нам дарогу да Пана! Жадаем, каб Езус адорваў яго сваёй ласкай, Анёл-Ахоўнік дадаваў сіл, Маці Божая ахінала мацярынскай пяшчотай, а Святы Дух вёў праз усё жыццё!*

***Вернікі Пастаўскай парафіі Святога Антонія Падуанскага***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*1 красавіка **айцец Чэслаў Курэчка** адзначыць свой юбілейны, шасцідзясяты дзень нараджэння.*

*Сардэчна віншуем, дарагі наш ксёндзпробашч, і жадаем, каб Нябесны Айцец, Які ўказаў Вам дарогу жыцця, шчодра, паайцоўску, адарыў усімі патрэбнымі ласкамі, дапамагаў у спаўненні даручаннай Вам паслугі на нялёгкім, складаным, але такім пачэсным шляху служэння Богу і людзям! Няхай Маці Божая будзе надзейнай апякункай і цудадзейнай суцяшальніцай, а промнямі сваёй міласэрнасці хай асвятляе шлях Вашай зямной пілігрымкі!*

*Доўгіх Вам, ойча, гадоў жыцця ў добрым здароўі, шчодрых дароў Духа Святога і Божага блаславення! Няхай Вас, нястомны сейбіт, які сее ў людскія сэрцы праўды Божай зерне, узнагародзіць Той, Хто жыве ў небе!*

***Вернікі парафіі Св. Марыі-Магдалены з Асвеі***

## Хвала Хрысту!



*Сардэчна віншуем з дзясятай гадавінай святарскага пасвячэння нашага **ксяндза Аляксандра Півавара**! Выказваем вялікую ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве! Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою і цярплівасці ў пастырскім служэнні. Няхай Пан Бог дапамагае ва ўсіх Божых справах!*

*Нізкі паклон Вам, шаноўны ксёндз Аляксандр, за сумесныя малітвы, за дабрыню і разуменне!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі капліцы Маці Божай Будслаўскай (аг. Кардон)***

## Хвала Хрысту!

***Айцец Вадзім Мізер МІС** з парафіі Святога Юзафа ў Оршы і **айцец Канстанцін Анашка МІС** з санктуарыя Маці Божай Фаціімскай у Жодзіне 8 сакавіка адзначалі гадавіну святарскіх пасвячэнняў.*



*Няхай Маці Божая няспынна ахінае іх сваёй апекай, а кожны дзень будзе асвечаны дарамі Святога Духа! Жыццёвай мудрасці і цеплыні ў сэрцах!*

***Бернарда Павасар***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў па ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

**Інтэнцыя св. Імшы**

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Эўхарыстыя першых хрысціянаў

*Працяг. Пачатак чытайце на старонцы 9*

## Эўхарыстыя II і III ст.

Найстарэйшае апісанне Эўхарыстыі мы знаходзім у Першай Апалогіі святога Юстына:

"После того, как омоется таким образом уверовавший и давший свое согласие, мы ведем его к так называемым братьям в общее собрание для того, чтобы со всем усердием совершить общие молитвы как о себе, так и о просвященном и о всех других, повсюду находящихся, дабы удостоиться нам, познавши истину, явиться и по делам добрыми гражданами и исполнителями заповедей, для получения вечного спасения".

Кандыдат да Хросту не ўдзельнічаў у Эўхарыстыі. Ён мог слухаць Божае Слова і казанне, але на сам час Эўхарыстыі павінен быў пакінуць месца малітвы. І толькі пасля Хросту ён мог надалей заставацца з братамі. Святы Юстын паказвае малітву вернікаў. Бачна, наколькі яна была спантаннай.

По окончании молитв мы приветствуем друг друга лобзанием.

Гаворка ідзе пра знак супакою. Першапачатковa ён быў пасля малітвы вернікаў перад малітвай Эўхарыстычнай. Невядома, ці гэты знак супакою быў на кожнай нядзельнай Імшы, ці толькі падчас Хросту.

Потом к предстоятелю братии приносятся хлеб и чаша воды и вина: он, взявши это, воссылает именем Сына и Духа Святого хвалу и славу Отцу всего и подробно совершает благодарение за то, что Он удостоил нас этого. После того, как он совершит молитвы и благодарение, весь присутствующий народ отвечает: аминь. Аминь – еврейское слово – значит: да будет. После благодарения предстоятеля и возглашения всего народа так называемые у нас диаконы дают каждому из присутствующих приобщиться к хлебу, над которым совершено благодарение, и вину и воде, и относят их к тем, которые отсутствуют.

Мы не бачым тут дакладнага апісання Эўхарыстычнай малітвы, а гэта азначае, што яна была спантаннай. Тым не менш, святы Юстын пісаў цэзару Антаніну Пію, паказваючы жыццё хрысціянаў, а не толькі нейкай мясцовай супольнасці. Гэта значыць, што, нягледзячы на спантаннасць малітвы, Эўхарыстыя ўсюды выглядала вельмі падобна.

Святую Камунію раздавалі дыяканы, а таксама заносілі яе тым, хто не мог прыйсці на Імшу.

Пища эта у нас называется евхаристиею (благодарением), и никому другому не позволяется участвовать в ней, как только тому, кто верует в истину учения нашего и омылся омовением в оставление грехов и в возрождение, и живет так, как предал Христос. Ибо мы принимаем это не так как обыкновенный хлеб или обыкновенное питье, но как Христос, Спаситель наш, Словом Божьим воплотился и имел плоть и кровь для спасения нашего, таким же образом пища эта, над которой совершено благодарение через молитву слова Его и от которой через уподобление получает питание наша кровь и плоть, есть, как мы научены, плоть и кровь того воплотившегося Иисуса. Ибо апостолы в написанных ими сказаниях, которые называются Евангелиями, предали, что им было так заповедано: Иисус взял хлеб и благодарил и сказал: это делайте в Мое воспоминание, это есть тело Мое; подобным образом Он взял чашу и благодарил и сказал: это есть кровь Моя, и подал им одним...

С того времени мы между собою всегда вспоминаем об этом. И достаточные из нас помогают всем бедным, и мы всегда живем за одно друг с другом.

Ідзе размова пра ахвяры. Іх збіралі пасля ўсіх малітваў для біскупа, і яны мелі канкрэтную мэту. Гэтымі ахвярамі падтрымлівалі бедных, старых і хворых. З пасланняў апостала Паўла мы даведваемся, што ахвяры таксама збіралі на місійныя патрэбы апосталаў.

За все получаемые нами благодеяния мы прославляем Создателя всего, через Сына Его Иисуса Христа и через Духа Святого. В так называемый день солнца бывает у нас собрание в одно место всех живущих по городам или селам; и читаются, сколько позволяет время, сказания апостолов или писания пророков. Потом, когда чтец перестанет, предстоятель посредством слова делает наставление и увещание подражать тем прекрасным вещам. Затем все вообще встаем и воссылаем молитвы. Когда же окончим молитву, тогда, как я выше сказал, приносится хлеб, и вино, и вода; и предстоятель также воссылает молитвы и благодарения, сколько он может. Народ выражает свое согласие словом "аминь", и бывает раздавание каждому и приобщение даров, над коими совершено благодарение, а к небывшим они посылаются через диаконов. Достаточные же и желающие, каждый по своему произволению, дают, что хотят, и собранное хранится у предстоятеля: а он имеет попечение о сиротах и вдовах, о всех нуждающихся по болезни или по другой причине, о находящихся в узах, о странниках издалека, вообще печется о всех, находящихся в нужде. В день же солнца мы все вообще делаем собрание потому, что это есть первый день, в который Бог, изменивши мрак и вещество, сотворил мир, и Иисус Христос, Спаситель наш, в тот же день воскрес из мертвых. Распяли Его накануне Сатурнова дня, а в день после Сатурнова дня, т. е. в день солнца, Он явился апостолам Своим и ученикам и преподал им то, что представили мы вам.

З гэтага апісання выразна бачна, што Святая Імша мела дзве часткі. Першая – гэта чытанне Старога Запавету, а таксама Новага. Святы Юстын узгадвае Евангеллі ў множным ліку, а таксама пасланні Апосталаў. Пасля чытання быў каментар і заахвочванне, каб жыць паводле Божага Слова. Другая частка – гэта сама Эўхарыстыя.

Іншым старажытным тэкстам з'яўляецца "Дзідахэ", вядомы як "Навука Дванаццаці Апосталаў". Гэты рукапіс паўстаў каля 215 г. н.э. У ім мы чытаем:




"Что касается Евхаристии, благодарите так. Прежде о чаше:

"Благодарим Тебя, Отче наш, за святую лозу Давида, отрока Твоего, которую Ты явил нам через Иисуса, Отрока Твоего. Тебе слава во веки!"

Что же касается преломляемого хлеба (благодарите так):

"Благодарим Тебя, Отче наш, за жизнь и ведение, которые Ты открыл нам через Иисуса, Сына Твоего. Тебе слава во веки! Как этот преломляемый хлеб, быв рассеян по холмам, и будучи собран, сделался единым, так да соберется Церковь Твоя от концов земли в Царствие Твое. Ибо Твоя есть слава и сила через Иисуса Христа во веки!"

Никто же да не ест и не пьет от вашей Евхаристии, кроме крещенных во имя Господне; ибо об этом сказал Господь: "Не давайте святыни псам".

Исполнивши все, так благодарите:

"Благодарим Тебя, Святый Отче, за святое имя Твое, которое Ты вселил в сердца наши, и за ведение и веру и бессмертие, которое Ты открыл нам через Иисуса, Сына Твоего. Тебе слава во веки! Ты, Владыко Вседержитель, создав все, имени Своего ради дал людям пищу и питье на пользу, чтобы они благодарили Тебя, нас же благословил духовною пищею и питьем и жизнью вечной через Твоего Отрока. Прежде благодарим Тебя потому, что Ты всесилен. Тебе слава во веки! Помни Господи, Церковь Свою, да охранишь ее от всякого зла и сделаешь ее совершенной в любви Твоей, и собери ее от четырех ветров, освященную, во Царствие Твое, которое Ты уготовал ей. Ибо Твоя есть сила и слава во веки! Да приидет благодать и да прейдет мир сей! Осанна Сыну Давидову! Если кто свят, пусть приходит, а кто нет, пусть покается. Марана-фа! Аминь!" (Дидахе, главы 9-10).

Гэты тэкст хаця і не паказвае нам нічога новага, аднак тут маем канкрэтныя тэксты малітваў, а не толькі схему Імшы, як гэта было ў святога Юстына. Гэта сведчыць пра тое, што з часам спантаннасць пачынае адыходзіць ад Эўхарыстыі, з'яўляюцца супольныя для ўсіх тэксты. У гэтым былі свае і плюсы, і мінусы. З аднаго боку, Эўхарыстыя – гэта настолькі важны для вернікаў абрад, што нельга было дапусціць да анархіі і ўласнай творчасці, трэба было ўсталяваць парадак. З іншага ж боку, гэты парадак будзе забіваць жывое слова, і на змену шчырай малітве прыйдзе малітва завучаная, нібы верш, што мы маем магчымасць бачыць сёння ў нашых касцёлах.

## Месца культу

Да паловы III ст. хрысціяне збіраліся ў прыватных дамах на Эўхарыстыю. Калі вернікаў станавілася ўсё больш і больш, багатыя вернікі пачалі аддаваць свае дамы спецыяльна толькі для культу. Такія дамы называлі "дамамі Касцёла", а пасля сталі проста называць "касцёламі". Пад канец III ст. пачалі спецыяльна будаваць дамы, якія прызначаліся для культу. У той час у Рыме было каля 40 такіх дамоў.

## Эўхарыстыя IV – VII ст.

Пасля таго, як хрысціянства сталася афіцыйнай рэлігіяй Рымскай Імперыі, літургія Святой Імшы істотна змянілася. Пачаліся будавацца базілікі, каб змясціць шмат вернікаў. Літургію цэлебраваў біскуп са святарамі. Яна набыла больш сталы характар, не было ўжо спантаннасці. Святая Імша выглядала, падобна, як і сёння. Самыя вялікія змены прынесла змена мовы. Пачаткова хрысціяне маліліся на грэцкай мове.



Пасля пачала ўваходзіць ва ўжытак лацінская мова, якая была больш зразумелай. Нагадаю, што святы Геранім перакладаў Біблію на лацінскую мову для таго, каб людзі маглі чытаць яе і разумець. Такім чынам, пачынаецца двухмоўе. Чытанні былі на лацінскай мове, а малітвы і спевы – па-грэцку. З часам лаціна ўсё больш і больш станавілася практычнай. Адзін са старажытных аўтараў IV ст. узгадвае, што людзі спявалі па-грэцку, але не разумелі зместу спеваў. Спявалі толькі па традыцыі. Урэшце пад канец IV ст. у літургіі застаецца толькі лацінская мова. Разам з мовай у літургію прыйшлі элементы рымскага характару – лагічнасць, сціпласць, простасць, яснасць. Ад гэтага часу літургія лацінскіх хрысціянаў пачынае адрозніваецца ад літургіі хрысціянаў грэцкай культуры, і гэтая розніца застаецца да нашых часоў.

Нягледзячы на экспансію лацінскай мовы, некаторыя рэгіёны Рымскай Імперыі захавалі свае традыцыі. Таму літургія кельтаў, галаў, паўночнаафрыканскіх хрысціянаў адрознівалася ад літургіі Рыма, нягледзячы на тое, што ўсе прызнавалі аўтарытэт Рыма і былі падначалены Папу Рымскаму. Гэтыя розніцы існавалі ажно да Трыдэнцкага Сабору (сярэдзіна XVIст.).

## Спантаннасць

Мы бачым, як на працягу стагоддзя змяняецца спантаннасць у літургіі, як прыходзяць канкрэтныя пункты і нават запісаныя малітвы. Тым не менш парадак на Імшы быў далёка не ідэальным. Падчас казанняў святога Аўгустына людзі маглі пляскаць у далоні, маглі біцца ў грудзі на знак пакаяння, а часам перакрыквалі святога на знак супраціву. Часам дыякан не мог змусіць людзей стаць на калені, а іншым разам людзям не падабаўся той ці іншы пераклад на лацінскую мову. Бывала, не маглі сабраць людзей у святыні на малітве, а калі-нікалі не маглі супакоіць тых, хто прыйшоў.

Канечне, гаворка ідзе не зусім пра першых хрысціянаў, а пра тых, хто масава перайшоў з паганства ў хрысціянства пасля 313 года (Міланскі Эдыкт Цэзара Канстанціна). У выніку ў касцёлах з'явіліся натоўпы, толькі не шмат было карысці ад гэтых натоўпаў.

# Азбука Великого поста



**Уже почти две недели поста позади. Видим ли мы какие-то изменения в своей жизни? Насколько нам помогают принятые ограничения и благочестивые практики? Для тех, кто всё ещё пребывает в растерянности, мы публикуем эту азбуку Великого поста. По одному полезному совету на каждую букву алфавита, чтобы каждый нашёл что-то для себя.**

**Анастасия Орлова**, *рускатолик.рф*

**А** – аминь, да будет так, да будет мне по слову Твоему! Такой позиции перед лицом Бога учит нас Пресвятая Богородица. Даже когда Она не понимала, даже когда обстоятельства были против Неё, даже когда Ей было больно, Она говорила "fiat", принимая волю Творца, которую Он являл Ей через откровение или обстоятельства. Великий пост – отличное время, чтобы поупражняться в таком доверии Богу, и помощью в этом может стать молитва "Ангел Господень", если мы начинаем с неё каждый новый день. Попробуйте читать эту молитву по утрам во время поста.

**Б** – Библия пусть станет вашим спутником в этот период. Это не просто книга, это Слово Божие. Найдите время, чтобы встречаться с ним ежедневно.

**В** – воздержитесь от осуждения и критики окружающих. Это входит в привычку, и часто мы даже не замечаем, как делаем это. Когда вам в следующий раз захочется раскритиковать ближнего, даже в мыслях, вспомните о том, что другой – такой же возлюбленный сын Господа, и никто не в силах отобрать у него этого достоинства, особенно ваша гордыня.

**Г** – гонения на христиан в мире не стихают ни на минуту, и есть те, кто в этот Великий пост буквально соединяется с Христом в Его страданиях. Будем непрестанно благодарить Бога за их свидетельство и молиться о прекращении преследований на религиозной почве. Соединяясь с Церковью в этой молитве, мы можем пережить подлинный опыт единства членов мистического Тела Христова.

**Д** – делами милосердия призывает Церковь наполнить время поста. Откройте катехизис, чтобы вспомнить 7 дел милосердия для души и 7 дел милосердия для тела. Некоторые из них могут показаться вам трудновыполнимыми, но если у вас получится практиковать хотя бы два-три из них в этот период, это уже немало!

**Е** – Евхаристия – центр жизни христианина. Часто после работы мы не имеем сил пойти на Мессу, и даже в воскресенье мы порой находим более важные дела. В этот Великий пост постарайтесь чаще участвовать в Литургии Церкви и откройте заново важность соединения с Христом в Евхаристии для вашей веры и вашей повседневной жизни.

**Ж** – жития святых станут отличным сопровождением в период поста. Пусть их вера вдохновляет вас, их пример – направляет ваши мысли, слова и поступки. Не забывайте также просить их о заступничестве, в частности, просите о благодати веры и о том, чтобы желать Христа прежде и превыше всего в жизни.

**З** – зависимости, большие и маленькие, есть у каждого из нас. Воспользуйтесь благодатным временем поста, чтобы противостоять им. Признайте честно, чем вы побеждены, что берёт верх над вами – алкоголь, никотин, кофе, вредная еда или какие-то ментальные привычки. Откажитесь от этого и неустанно просите у Господа помощи в этой борьбе.

**И** – исповедь преображает нашу жизнь. Если в этот Великий пост вы всё ещё не приступили к ней, не оттягивайте этот момент встречи с нежностью милосердного Отца.

**К** – Крестный путь – особое богослужение Великого поста, совершаемое по пятницам практически в каждом католическом приходе. Выделите время для участия в нём – это не формальность, а возможность пройти вместе с Христом, хотя бы мысленно, путём Его страданий, с каждым стоянием открывая Его бесконечную любовь к нам.

**Л** – личная встреча всегда предпочтительнее пары фраз и улыбающегося смайлика в мессенджере. То время дня, что вы тратите на переписку с двумя-тремя людьми, посвятите личной встрече с одним из них. Короткому, но вдумчивому разговору с коллегой во время перерыва. Разговору за кофе с другом, с которым вы давно не общались "глаза в глаза". Помните, Господь не отправил нам СМС с инструкциями, Он стал человеком, Он вошёл в нашу жизнь и разделил с нами всё. К такой же любви призваны и мы. Не отделывайтесь смайликами, будьте рядом с теми, кто нуждается в вас.

**М** – милостыня – ещё один важный элемент Великого поста. Не проходите мимо нуждающихся, не отворачивайтесь от просящего, не судите в сердце, насколько нужна ему ваша помощь. Просто дайте её, разделите то, что имеете, с другими. Пусть это станет напоминанием, что всё дано вам Отцом и ничто вам не принадлежит.

**Н** – навестите больного друга. Не пишите ему дежурное "выздоравливай скорее" или "я помолюсь о тебе". Посвятите ему своё время. Привезите небольшой знак внимания, узнайте, в чём он нуждается и чем вы можете помочь, уделите ему хотя бы час своего времени.

**О** – ограничьте время, которое вы ежедневно проводите в своём смартфоне. Участие в горячих дискуссиях на Фейсбуке, чтение новостей, пересылка мемов и бесцельное листание Инстаграма... Бросьте, вы можете использовать это время с куда большей пользой!

**П** – поститесь не только в Пепельную среду и Страстную пятницу. Помните, что каждая пятница является постным днём. Воздержание от пищи – это не способ доказать себе и окружающим, какой вы волевой человек, а ваша скромная жертва Богу, желание соучаствовать в Его жертве.

**Р** – разделите трапезу с друзьями и родными. Если ваши друзья не религиозны, пригласите их на обед со своей семьёй, с которой вы молитесь перед едой. Или, наоборот, пригласите своих неверующих близких в компанию верующих друзей, чтобы они увидели, что ваша взаимная любовь, единство между вами, имеет твёрдое основание.

**С** – смерть телесная, её не избежать никому из нас. Великий пост – отличное время, чтобы размышлять о конечности земного бытия и о пункте назначения, в который мы призваны прийти, – в Царствие Божие, в Дом Отца. А также молиться о всех усопших близких и о собственной благой кончине.

**Т** – творение нуждается в вашей заботе. В этом году исполняется пять лет с публикации энциклики Папы Франциска "Laudato Si'" о проблемах экологии и защите окружающей среды. Вскоре после Пасхи Папа призвал Церковь провести "Неделю Laudato Si'". Подумайте, какой вклад в защиту нашего общего дома вы можете внести уже сейчас. Возможно, это мелочь, вроде сдачи литиевых батареек или пластика. Или сдача старой ненужной одежды на переработку. Пусть это будет ещё одним делом милосердия на этот Великий пост.

**У** – "усыновите" одного человека на всё время поста и регулярно молитесь о нём. Это не обязательно должен быть кто-то из близких. Посмотрите по сторонам. Попросите Духа Святого направить вас в выборе.

**Ф** – фиксируйте в блокноте или любом другом удобном месте плоды ваших великопостных размышлений. Маленькие открытия, сопровождающие чтение Библии, время в молчании, или следствия совершенных вами добрых дел, имеют огромную ценность для духовной жизни. Зафиксируйте опыт близости Бога на бумаге, чтобы возвращаться к нему в моменты смятения и оставленности.

**Х** – храните молчание хотя бы 15 минут, но каждый день. Выделите немного времени для Бога. Времени, когда вы молчите, а Он говорит. Пусть период поста поможет вам освободиться от привычного шума, отдаляющего вас от Центра вашей жизни.

**Ц** – цените каждое мгновение вашей жизни, благодарите Бога за новый день, за работу, дружбу, за пищу на вашем столе, за здоровье и силы, за любовь и заботу близких. Наполните каждый день Великого поста благодарностью Богу, которым всё стоит, который один благ и творит вас в каждом новом мгновении жизни.

**Ч** – человеческое отношение к ближним начинается с самых простых вещей. Постарайтесь в Великий пост чаще говорить слова "Спасибо", "Пожалуйста", "Прости". Это не просто форма вежливости – это возможность признать и уважать свободу и достоинство другого.

**Ш** – шанс измениться у нас есть всегда, но в Великий пост нам в этом помогает особая благодать Бога. Это время обращения, время освободиться от всего наносного и второстепенного и вновь обратиться к Истоку нашей жизни. Помните, что регулярное участие в Таинстве Евхаристии, исповедь и молитва помогают нам встречаться с этой благодатью снова и снова.

**Э** – эгоизм заставляет нас замыкаться в себе, внушая, что наши интересы находятся превыше нужд окружающих. Он уводит нас в оцепенение одиночества, и в нём, без взгляда другого человека, мы уже едва можем вспомнить, кто такие мы сами. Если вы ощущаете себя одинокими, используйте благодатное время поста, чтобы посмотреть на истинные причины этого одиночества и просить Бога об освобождении от него.

**Ю** – юмор – это не что-то противоречащее времени поста. Иногда он просто необходим в борьбе с нашими слабостями и пороками, а значит и в пути приближения к Богу. Если вы привыкли жаловаться на жизнь, и на работе вас загружают больше всех, и все вас обижают, и никто не понимает, в этот Великий пост постарайтесь посмотреть на себя со стороны. Здоровая доля юмора поможет вам освободиться от постоянной жалости к себе и претензий к миру.

**Я** – явления ангелов людям на протяжении всей библейской истории – события исключительные. Нечасто Господь так прямо сообщает человеку Свою волю. Однако Церковь учит, что ангелы сопутствуют нам всё время. В первую очередь, Ангелы-хранители, ближайшие посредники между нами и Богом. Если вы не читаете молитву Ангелу-хранителю каждый день, Великий пост – отличное время, чтобы ввести такую практику.

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

Працягваецца час Вялікага посту. Мы разам з Пазнавайкай прапануем табе прыгадаць апошнія падзеі з зямнога жыцця Езуса Хрыста.

**1.** Перад Апошняй Вячэрай Езус урачыста заехаў на асляняці ў Ерузалем. Людзі выйшлі Яму насустрач і віталі Яго такімі словамі: ______________________________
______________________________
______________________________

Калі па парадку выпішаш словы з пальмовай галінкі, даведаешся, што гэта былі за словы. Правер сябе: Ян 12, 12-13.




**2.** У гэтым заданні трэба прыпомніць у храналагічным парадку падзеі Вялікага Чацвярга. Пастаў па парадку падзеі, якія адбываліся ў Вялікі Чацвер:

- Малітва Езуса ў Садзе Аліўным
- Езус абмывае вучням ногі
- Пётр адракаецца ад Хрыста
- Езус дае нам свае Цела і Кроў
- Юда пацалункам выдае Езуса на смерць











**3.** Выберы правільны адказ. Папрасі дарослых цябе праверыць.

**1. Як звалі чалавека, які вынес прысуд Езусу?**

а) Цар Ірад
б) Понцій Пілат
в) Цэзар Аўгуст

**2. Што падчас бічавання жаўнеры ўсклалі на галаву Езуса?**

а) Тыяру
б) Вянок з ружаў
в) Вянок з церняў

**3. Як звалі чалавека, які дапамог Езусу несці крыж?**

а) Ян - улюбёны вучань Хрыста
б) Бараба
в) Сымон з Кірэнэі

**4. Дзе ўкрыжавалі Езуса?**

а) Гефсіманія
б) Галгофа
в) Герызім

**4.** На Крыжовым шляху Езус сустрэў жанчыну, якая сваёй хусткай выцерла Яму твар, за што і атрымала незвычайны падарунак. Як звалі гэтую жанчыну, дапішы ўнізе.

**Злучы па кропках і паглядзі, які гэта быў падарунак. Размалюй.**



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Рыгор Барадулін: "Мне адступаць няма куды – За мной Вушача"



Ірве стаеннік праўды,
На волю скача.
Мне адступаць няма куды –
За мной Вушача.
Яна за мной, яна ўва мне,
Я ў ей – таксама.
Я вечны ў роднай старане,
Як слова Мама...

*Рыгор Барадулін*

24 лютага споўнілася б 85 гадоў нашаму земляку, народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну. 26 лютага, на пачатку Вялікага посту, у касцёле Святога Лаўрэнція ў г.п. Ушачы адбылася святая Імша ў інтэнцыі памерлага паэта.

Яго вобраз блізкі кожнаму ўшачаніну, а асабліва вернікам з нашай парафіі. Жыццё Рыгора Барадуліна было цесна звязана з сучаснай гісторыяй нашага касцёла. У 2001 годзе паэт удзельнічаў у першай пасляваеннай Імшы яшчэ ў разбуранай святыні. У 2004 годзе, ужо ў адноўленым касцёле, разам з вялікім натоўпам людзей адстаяў усё набажэнства, уважліва выслухаў настаўнаваторы́ы навастворраны парафіянамі касцельны гімн, пазней апрацаваў тэкст з уласцівай яму пранікнёнасцю.

Рыгор Іванавіч прыходзіў у касцёл са сваімі сябрамі, роднымі, прыхільнікамі яго творчасці. Заўсёды ціха маліўся, звяртаючыся да Збаўцы са словамі шчырага прызнання і ўдзячнасці. Адчувалася яго ўсхваляванасць і замілаванне...

О любасны Хрыстос,
Свет у табе ўваскрос.
Тваіх вачэй святло
З бясконцасці прыйшло.

Укрыжаваны лёс
Злічыў сузор'і слёз.
І сонцам дабрыні
Абнашыліся дні.

Душы гаючы боль,
Зямлі святая соль,
Ты нам жыццё прынёс,
Хрыстосе, Сын нябёс.

Рыгор Барадулін пераклаў з польскай мовы малітву да Маці Божай Ушацкай, Чый цудатворны абраз знаходзіцца ў нашым касцёле.

У 2005 годзе ў нашай святыні адбылася прэзентацыя яго кнігі "Ксты". Вялікую колькасць экзэмпляраў гэтай кнігі паэт ахвяраваў на карысць нашай парафіі. Яму пашчасціла быць запрошаным на асабістую аўдыенцыю са Святым Айцом Янам Паўлам ІІ.

Рыгор Іванавіч быў жаданым госцем на плябаніі, а таксама гасцінна прымаў у сваім доме ксяндза і вернікаў, вельмі любіў, калі да яго прыходзілі дзеці і моладзь. З ім заўсёды было цёпла, утульна, цікава, як бывае толькі ў родных і бацькоў.

Рыгор Барадулін шчыра перажываў за лёс Беларусі і свайго народа, стараўся па магчымасці падтрымаць землякоў у вырашэнні іх праблем, уважліва ставіўся да спробаў маладых пісаць вершы, цікавіўся працай школы і бібліятэк.

Памяць пра вялікага паэта жыве тут, на яго радзіме. Жывуць яго неўміручыя творы, а значыць, жыве ён сам!

У кожнага з нас ёсць хаця б адна кніга барадулінскіх вершаў. Перачытайма іх з удзячнай малітваю Пану Богу за гэтую яркую зорку на небасхіле талентаў Беларусі, у вобразе якой увасобіліся нашы пачуцці, мары, надзеі, нашы расчараванні і імкненні, вера ў Найсвяцейшага Творцу і Яго Сына, у Найсвяцейшую Маці.

Прыгадаем барадулінскае "Маленне за Беларусь"...

Божа, пашлі Беларусі
Ласку з тваімі вачамі,
Сэрцы сугеш у скрусе,
Злітуйся над крывічамі.

Знікнуць, Святы, не дай нам
Ад рукатворнага жаху,
Верацьмем вечным тайнам
Руху твайго і шляху.

Божа, вярні дадому
Блудныя душы выгнання.
Поперак духу злому
Воля Гасподня стане.

Хай беларус беларуса
Будзе любіць як брата.
Светлая Імем Езуса
Наша крывіцкая хата.

Божа, на ўсіх раздарожжах
Нас ад напасцяў варожых
Твой зберажэ напамін.
Амін.

*З павагай, парафіяне касцёла Святога Лаўрэна ў г.п. Ушачы*

# Дзень засяроджанасці для моладзі пройдзе ў Полацку

**28 сакавіка ў Полацкай парафіі Святога Андрэя Баболі адбудзецца Дзень засяроджанасці для моладзі. Душпастырства моладзі Віцебскай дыяцэзіі шчыра запрашае маладых людзей прыняць удзел у гэтай сустрэчы.**

**У праграме:** святая Імша, канферэнцыя, Крыжовы шлях, Адарацыя.

**Пачатак** – а 14.30, **заканчэнне** – а 21-й гадзіне.

Пра сваё жаданне прысутнічаць просім паведаміць **да 25 сакавіка** па тэл.: **+375 29 566-48-33** (кс. Алег).

Парафія Святога Андрэя Баболі г.Полацк
Дзень засяроджанасці для моладзі
28 III 2020
Пачатак у 14:30
Запіс да 25 III 20
св. Імша
канферэнцыя
крыжовы шлях
адарацыя
КС.АЛЕГ ХМЫЛКО +375 29 566 48 33
@ddm.vicebsk ddm.vicebsk
Душпастырства моладзі Віцебскай дыяцэзіі

# Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

*Рэдакцыя сайта Catholicnews.by*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
Заснавальнік: мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
Выдавец: рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
Галоўны рэдактар: кс. Віктар Місевіч
Тэхнічны рэдактар: Дзмітрый Лупач
Мастацкі рэдактар: Леанід Юрык
Рэдактар сайта: Марына Сінкевіч
Карэктары: Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1464
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2900 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 19.03.2020 г. у 07.46
Юрыдычны адрас: 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
Адрас для карэспандэнцыі: 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621
9772224962006
Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь